ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 33 (2495)
ПЯТНІЦА
15
мая 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

# СЁННЯ МІНСК—СТАЛІЦА САВЕЦКАГА КІНО!

## ШЧЫРАЕ ПРЫВІТАННЕ ЎДЗЕЛЬНІКАМ IV УСЕСАЮЗНАГА ФЕСТЫВАЛЮ!




**МАЙСКІЯ** вятры калышуць над беларускай сталіцай сцягі рэспублік нашай краіны — тут, у Мінску, адкрыўся IV Усесаюзны кінафестываль. Адгрымелі апладысменты, якімі тысячы гараджан і гасцей віталі майстроў экраннага мастацтва, тых, хто будзе трымаць перад грамадскасцю адказны экзамен.

Газеты, радыё і тэлебачанне пашырылі аўдыторыю гледачоў да шматмільённай — аматары музы кіно ведаюць многія падрабязнасці: «хто», «што», «аб чым», «якія зоркі здымаліся»... І зычаць поспеху і прызоў лепшым стужкам і іх стваральнікам. Самыя гарачыя прыхільнікі артыстаў «прабіваюцца» да любімцаў, распытваюць, выказваюць захапленне і штурмуюць кінатэатры, на экранах якіх дэманструюцца конкурсныя фільмы. Захоўваюць маўчанне члены аўтарытэтных журы— яны працуюць напружана і ад іх залежыць канчатковы прысуд.

Хвалюючымі былі мінуты, калі мастакі самага масавага мастацтва, якія прыехалі з усіх куткоў краіны, сабраліся ля помніка У. І. Леніну і потым накіраваліся на плошчу Перамогі. Чырвань кветак і ўрачыстае маўчанне былі данінай памяці Правадыру і абаронцам Радзімы.

Савецкі чалавек у часе мірнай працы і ваенных выпрабаванняў— герой большасці фільмаў фестывалю. Гераічныя старонкі гісторыі таксама гартаюцца нашымі кінематаграфістамі. «Кінавока» скіравана ва ўсе пласты сённяшняга дня, мінулае і будучыню: дакументалісты, рэпарцёры-публіцысты, майстры навукова-папулярных стужак і мультыплікатары прадставілі свае лепшыя творы. На конкурсе — 114 фільмаў. Гэта — плён дзейнасці трыццаці дзевяці студый СССР.

Пачаліся будні фестывалю, падобныя на свята. Пачалася вялікая і адказная работа. Яе мэта падвесці вынікі творчай дзейнасці кінематаграфістаў за два гады і вызначыць шляхі далейшага развіцця экраннага мастацтва.

Працяг размовы пра фестываль — на стар. 10—11.

*— Добры дзень, Мінск!— гавораць удзельнікі Усесаюзнага кінафестывалю. Сярод гасцей Мінска—Ала Ларыёнава, Сяргей Міхалкоў, Рыта Гладунко.*

Фота Ул. КРУКА.

Алесь АСІПЕНКА

# ДАКУМЕНТ ВЯЛІКАЙ ВАЖНАСЦІ

Вясна сёлета запазнілася. У сакавіку, калі звычайна дрэвы адзяваюцца ў зеляніну, над Цэнтральнай Еўропай шугалі завірухі. І на Браціслаўскім аэрадроме, дзе мы прызямліліся ў сярэдзіне месяца, ляжаў снег, бялюткі і чысты, і весела беглі ўжо ручаіны вясновай вады, таксама чыстай і празрыстай.

Вясна і абнаўленне адчуваліся не толькі ў прыродзе. Цёплыя павевы братняй дружбы з савецкім народам, усведамленне неабходнасці брацкай інтэрнацыянальнай узаемадапамогі Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін у барацьбе супраць контррэвалюцыі, шчырасць і ўдзячнасць Краіне Саветаў за вызваленне народаў Чэхаславакіі ад гітлераўскіх захопнікаў—гэтыя і шмат якія іншыя адзнакі сведчылі, што здаровы розум і дух кансалідацыі перамагаюць ва ўсіх галінах грамадскага жыцця.

Пра нядаўняе мінулае гаварылася з горыччу і болем. Будучае ўяўлялася як цесная садружнасць з краінамі сацыялізма ва ўсіх сферах жыцця.

Гэтыя пачуцці інтэрнацыянальнай еднасці і вялікай павагі да Савецкага Саюза і яго Камуністычнай партыі глыбока жылі ў сэрцах чэшскага і славацкага народаў.

Нам давялося прысутнічаць на паэтычным свяце «Пушкінскі помнік». Са школ аднаго з раёнаў Славакіі, што размешчаны пад Браціславаю, сабраліся ў зале вучні, каб спаборнічаць у веданні і дэкламацыі рускай і савецкай паэзіі. Гэта было кранаючае свята. Трэба было бачыць твары дзяцей, якія адзін за адным выступалі на сцэне, дэманструючы сваю любоў да савецкай паэзіі. Яны самі вывучалі рускую мову, самі падбіралі паэтычныя тэксты. Іх галоўная мара—пабываць у Савецкім Саюзе.

На дарогах Славакіі, недзе ў Татрах, мы сустрэліся з лясніччым. Быў выхадны дзень. Мы гаварылі пра жыццё, пра вясну, што нечага забавілася. Я сказаў, што жыву ў Беларусі. Лясніччы ўстрапянуўся.

— А Маладзечна ведаеце!—спытаў ён.—Мая дачка перапісваецца з маладзечанскімі школьнікамі. Ах, як шкада, што вы едзеце. Яна вельмі хацела б пабачыць каго з беларусаў. Штосьці б там ні было, а нашы сэрцы заўсёды з савецкім народам.

У Браціславе той парою чакалі міністра замежных спраў СССР А. А. Грамыку. На яго візіт ускладалася шмат надзей. Пагаворвалі аб новым дагаворы. І ўсюды рыхтаваліся да свята вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў.

Кроў, пралітая савецкім, славацкім, чэшскім народамі ў барацьбе з гітлерызмам, кліча да вечнай дружбы, напамінае аб нашай непераможнасці ў адзінай сям'і сацыялістычных нацыяў.

Ёсць штосьці знамянальнае ў тым, што якраз напярэдадні Дня Перамогі, 6 мая гэтага года, ва Уладзіслаўскай зале Пражскага Крамля быў падпісаны новы савецка-чэхаславацкі Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе.

Як адзначаецца ў камюніке, абедзве дэлегацыі з задавальненнем адзначылі, што новы Дагавор адлюстроўвае імкненне абедзвюх краін умацоўваць адзінства і згуртаванасць сацыялістычнай садружнасці і ў значнай меры садзейнічае забеспячэнню міру, бяспекі і супрацоўніцтва паміж усімі дзяржавамі Еўропы.

«Тэкст дагавору,—гаварыў у дакладзе на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 25-й гадавіне вызвалення Чэхаславакіі Савецкай Арміяй, Першы сакратар ЦК КПЧ Густаў Гусак,—адпавядае прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму, якія ствараюць новы тып адносін, што склаліся паміж сацыялістычнымі дзяржавамі».

Новы дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе—гэта праграмны дакумент савецка-чэхаславацкага супрацоўніцтва. Ён з радасцю і вялікім задавальненнем успрыняты нашымі народамі. Ён дэманструе неадольную сілу камуністычных ідэй. Ён разбурае планы імперыялістаў на разрозненне сацыялістычных сіл.

Выступаючы ў Іспанскай зале Пражскага Крамля на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным слаўнаму юбілею вызвалення Чэхаславакіі ад гітлераўскай акупацыі Савецкай Арміяй, Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Ільіч Брэжнеў сказаў:

«Паспяховы працэс кансалідацыі чэхаславацкага грамадства, пастаянна мацнеючая дружба Чэхаславакіі з яе сацыялістычнымі саюзнікамі—усё гэта дастойны адказ ворагам сацыялізма, ненавіснікам свабоднай сацыялістычнай Чэхаславакіі».

Ворагі сацыялізма атрымалі яшчэ адзін урок: павярнуць кола гісторыі назад—нельга!




Гэтыя кнігі прызнаны прыгажэйшымі на рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных конкурсах.

# РЭЗЕРВЫ НОВЫХ ЗДАБЫТКАЎ

Выдаўцы, паліграфісты, мастакі нашай рэспублікі могуць ганарыцца вынікамі сваёй працы — аўтарытэт беларускай кнігі няспынна расце.

Своечасова і высакаякасна выпускалі яны ў свет творы, прысвечаныя слаўнай ленінскай даце. А такіх выданняў было нямала — больш трыццаці назваў кніг, альбомаў і іншай друкаванай прадукцыі.

125 беларускіх выданняў было паслана на рэспубліканскі кніжны конкурс 1970 года. У гэтым конкурсе ўдзельнічалі ўсе выдавецтвы рэспублікі. Дыпломам імя Францішка Скарыны — вышэйшай узнагародай — былі адзначаны паэма Уладзіміра Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» на беларускай мове (выдавецтва «Беларусь», мастак Васіль Шаранговіч, макет і мастацкае рэдагаванне Леаніда Прагіна) і серыйнае выданне «Беларускія народныя казкі» (10 назваў), выпушчанае таксама выдавецтвам «Беларусь», любоўна, з добрай творчай выдумкай афармленае Наталляй Паплаўскай. Абодва выданні ўдала надрукаваны афсетным спосабам на Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа.

Адзінаццаць кніг адзначаны дыпломамі першай ступені, васемнаццаць — дыпломамі другой ступені і трыццаць дзве — заахвочвальнымі дыпломамі.

Усе гэтыя кнігі былі пасланы ў Маскву — на Усесаюзны конкурс на ленінскую кнігу, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. У конкурсе прынялі ўдзел усе цэнтральныя і амаль усе рэспубліканскія і абласныя выдавецтвы краіны.

Вельмі строгая ацэнка мастацкай вартасці і паліграфічнай якасці кніг — асаблівасць гэтага конкурсу. Узнагароды прысуджаліся ў два этапы. Спачатку — рабочым журы па відах літаратуры і канчаткова, па кожным з вылучаных выданняў — саветам журы, у якое ўваходзілі буйнейшыя мастакі-графікі і спецыялісты кнігавыдавецкай справы.

Беларускім выданням давялося вытрымаць вельмі цяжкі і сур'ёзны экзамен.

На Усесаюзным конкурсе, прысвечаным ленінскаму юбілею, аднадушна быў прысуджаны дыплом першай ступені выданню паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін». Пра высокі ўзровень мастацкага афармлення гэтай кнігі не раз пісалася ў друку. Кніга канструктыўна прадумана, лаканічная ў колеры і выдатна надрукавана. Ілюстрацыі В. Шаранговіча выкананы таленавіта.

Выдаўцам і паліграфістам рэспублікі прысуджаны дыплом другой ступені за першы том «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі». Дыплома другой ступені ўдастоена афармленая Г. Паплаўскім кніга Г. Лангфела «Спеў аб Гаяваце».

Добра вядомы работы Барыса Заборава над кніжкамі для дзяцей, якія вызначаюцца багатай мастацкай выдумкай, тонкім густам. На сёлетнім конкурсе дыплом другой ступені (у комплексе) прысуджаны афармленай Б. Заборавым кнізе Р. Барадуліна «Раскідач», а таксама беларускай народнай казцы «Музыка-чарадзей» (выдавецтва «Беларусь», надрукавана на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа), якую эмацыянальна, сапраўды казачна, з добрым адчуваннем нацыянальнага каларыту афарміла Н. Паплаўская.

Сем кніг выдавецтва «Беларусь» узнагароджаны заахвочвальнымі дыпломамі: зборнік «Пісьмы працоўных Беларусі У. І. Леніну», кніжка-малютка «Заўсёды з Леніным», паэтычны зборнік П. Броўкі «Між чырвоных рабін», «Выбранае» Адама Міцкевіча, фотаальбомы «Франтавымі дарогамі», «Хатынь» і іншыя.

Усім гэтым кнігам уласціва высокае мастацка-тэхнічнае афармленне, яны надрукаваны на добрай паперы, у іх палепшаны палосы набору і палёў, удала падабраны шрыфты, мэтазгодна скарыстаны колеры ў тэксце. Вокладкі і супервокладкі пакрыты спецыяльнай лакавай плёнкай, абрэзы блокаў зафарбаваны, уклеены шоўкавыя закладкі. Скарыстаны і новыя пераплётныя тканіны — піке, рэсінка, элегант, пераплётны матэрыял з адкрытай фактурай — штапельныя, ільняныя і іншыя тканіны.

Характэрна, што ў апошні час мацнеюць творчыя кантакты паміж нашымі выдаўцамі і паліграфістамі. У залежнасці ад афармлення прадумваецца тэхналогія паліграфічнага выканання, і гэта таксама станоўча адбіваецца на якасці выпуску кніг.

Вялікая роля ў развіцці афармленчай культуры ў рэспубліцы належыць мастакам-графікам. Гэта іх любоў і пашана да кнігі забяспечылі поспех многім беларускім выданням на конкурсах і выстаўках.

Побач са старэйшымі мастакамі-афарміцелямі А. Волкавым, І. Давідовічам, В. Ціхановічам, М. Гуціевым і іншымі ў апошнія гады плённа і паспяхова працуюць у беларускай кнізе мастакі сярэдняга пакалення: Г. Паплаўскі, А. Кашкурэвіч, Б. Забораў, Л. Асецкі, А. Лось. Нашы выдавецтвы актыўна супрацоўнічаюць з маладымі таленавітымі мастакамі: В. Шаранговічам, Н. Паплаўскай, А. Дэмарыным, А. Зайцавым, П. Драчовым, В. і М. Басалыгамі і іншымі.

Своеасаблівым дырыжорам у мастацкім вырашэнні вобраза кнігі з'яўляецца мастацка-тэхнічны рэдактар. Хочацца адзначыць плённую працу на працягу многіх гадоў мастацкіх рэдактараў М. Шырокава, Л. Прагіна, В. Жыжэнка, А. Яўменава.

Конкурсы і выстаўкі апошніх гадоў паказалі, што наша беларуская кніга заняла пачэснае месца побач з выданнямі братніх рэспублік Прыбалтыкі, якія здаўна славяцца высокай культурай выдання кніг.

На апошнім Міжнародным конкурсе ў Лейпцыгу паэма Якуба Коласа «Новая зямля» (выдавецтва «Беларусь», мастак Георгій Паплаўскі), надрукаваная на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа, у ліку чатырох кніг Савецкага Саюза была адзначана як прыгажэйшая кніга свету.

Такія нашы поспехі. Зразумела, яны — не мяжа.

Але было б няправільна думаць, што на фоне поспехаў мы не бачым недахопаў. Нашы кнігі часам выдаюцца шэра, без творчай выдумкі і ў слабым паліграфічным выкананні.

У нас у рэспубліцы амаль не выпускаецца мастацтвазнаўчая літаратура. А калі асобныя кніжкі і выходзяць, ім, як правіла, не хапае якасці мастацкага і паліграфічнага выканання. Асобнай размовы заслугоўваюць палітычная, навукова-тэхнічная і вучэбная літаратура. Трэба яшчэ шмат зрабіць, каб і гэтыя кнігі паспяхова ўдзельнічалі ў спаборніцтве за медалі і дыпломы.

**М. ГАНЧАРОЎ,**
галоўны мастак Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# КАБ НАПІЦЦА ВАДЗІЦЫ З ЧЫСТАЙ КРЫНІЦЫ...


П. І. Ратайка


Ф. Д. Пракудзін

**...«Таму што без вады і ні туды, і ні сюды»... Ісціна відавочная, хоць і гучыць прыпеўка з вядомай песенькі вадавоза крышачку лёгкадумна. А справа — ой, якая сур'ёзная.**

**Вада, вада... Кажуць, што прыродных запасаў вады на нашай планеце хопіць на 20 мільярдаў чалавек. Падлічана, што такое насельніцтва будзе недзе праз паўтараста гадоў. І, тым не менш, на бабульцы-зямлі было і ёсць шмат раёнаў, дзе вада на вагу золата. І нямала мясцін у свеце, дзе развіццё вытворчых сіл стрымліваецца толькі адсутнасцю вады, хоць ёсць тут сыравіна, ёсць людскія рэсурсы.**

**Скажуць, а пры чым тут наша Беларусь — край сінявокіх азёр і павольных рэк! Дзе-дзе, а ўжо тут вады павінна хапіць.**

**Не хапае. І чым далей, тым дэфіцыт гэты адчуваецца ўсё вастрэй. І мы, вядома, не выключэнне. Праблема вады стаіць зараз на парадку дня ва ўсіх развітых краінах.**

**З вялікім задавальненнем успрыняты нашай грамадскасцю апублікаваны нядаўна праект Асноў воднага заканадаўства Саюза ССР, якое павінна садзейнічаць зберажэнню і памнажэнню водных рэсурсаў краіны.**

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» папрасіў кіраўнікоў раду рэспубліканскіх міністэрств і ведамстваў — так сказаць водных «куратараў» — пракаменціраваць праект новага заканадаўства, расказаць, як у рэспубліцы аберагаюцца рэкі і азёры, што робіцца для таго, каб былі яны чыстыя, паўнаводныя, поўныя рыбы, што робіцца, каб у нашы кватэры бесперабойна падавалася чыстая, празрыстая вадзіца. Адным словам, усё пра ваду.**

**Інтэрв'ю ў кожнага з адказных таварышаў бралася асобна. Але дазволім сабе маленькую «вольнасць» — уявім, што гутарка вялася за адным сталом.**


У. А. Бразгаўка


Л. І. Бердзічавец

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— Як вы ацэньваеце праект Асноў воднага заканадаўства?

**Фёдар Дзмітрыевіч ПРАКУДЗІН,**
намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды:

— З'яўленне яго вельмі своечасовае. Не сакрэт — многія пытанні аховы прыроды, у прыватнасці, аховы нашых водных багаццяў, былі, калі можна так сказаць, не адрэгуляваны. Гаспадароў многа, а парадку... Думаю, што вельмі станоўчую ролю адыграюць такія артыкулы новага заканадаўства, як, скажам, шосты, дзе гаворыцца пра планаванне ў рэспубліках мерапрыемстваў па выкарыстанні і ахове вод, або восьмы, які ставіць пад строгі кантроль размяшчэнне, праектаванне, будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю прадпрыемстваў, збудаванняў і іншых аб'ектаў, якія ўплываюць на стан вады.

Разам з тым, на маю думку, многія набалелыя пытанні не знайшлі ў праекце свайго вырашэння.

Адна з самых вялікіх бядот — забруджванне вадаёмаў прамысловымі адкідамі, сцёкавымі водамі. Па новым заканадаўстве ў кожнай рэспубліцы будзе планавацца будаўніцтва водаачышчальных установак. Здаецца, добра. Але ж, у кожнай рэспубліцы ёсць многа прадпрыемстваў, якія падначальваюцца саюзным міністэрствам і гэтымі міністэрствамі фінансуюцца. Юрысдыкцыі рэспубліканскіх планавых і фінансавых органаў такія прадпрыемствы не падпарадкоўваюцца. Ну, а начальству, якое жыве далёка ад Беларусі, сказаць па праўдзе, не вялікі клопат, забруджвае, напрыклад, Беларускі аўтазавод раку Плісу, ці не. На выпуск аўтамабіляў гэта не ўплывае... Мне здаецца, што планаванне мерапрыемстваў па ахове і выкарыстанні водных багаццяў трэба рабіць у саюзным маштабе.

Яшчэ. На маю думку ў заканадаўстве трэба прадугледзець, каб завод, фабрыка, якія эксплуатуюць вадаём, плацілі і за ваду, якую бяруць, і за спуск сцёкавых вод. Такі парадак існуе, напрыклад, у Венгрыі, Польшчы, Чэхаславакіі. Гэтая мера вельмі дысцыплінуе. Кожнае прадпрыемства там зацікаўлена, каб мець ачышчальную ўстаноўку. Тады не трэба стольні плаціць за сцёкавыя воды, і ўстаноўка хутка акупаецца.

А ў нас? Калі завод карыстаецца водаправодам, дык яшчэ трохі плаціць па ўстаноўленым тарыфе. А калі вадаёмам — тут вады бярэ колькі хоча і ўсё бясплатна.

**Уладзімір Андрэевіч БРАЗГАЎКА,**
намеснік міністра камунальнай гаспадаркі БССР:

— Трэба, каб па заканадаўстве вада прамысловым прадпрыемствам на тэхналагічныя патрэбы выдавалася строга па ліміце. За перарасход ліміту — браць плату па павышаным тарыфе, каб гэтыя сродкі выкарыстаць для будаўніцтва водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі. Мы лічым, што кожнае прадпрыемства павінна адлічваць у рэспубліканскі цэнтралізаваны фонд сродкі на будаўніцтва і рэканструкцыю водаправода і каналізацыі. Што датычыць забруджвання вадаёмаў, дык тут трэба ўстанавіць самую строгую адказнасць, за кожны выпадак караць рублём...

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— Нядаўна «Литературная газета» пісала, як гэтая праблема рашаецца ў Разані, дзе на адным з буйных заводаў пабудавалі вельмі эфектыўныя ачышчальныя ўстаноўкі, да якіх падключыўся амаль увесь горад. Сцёкавыя воды тут вяртаюцца ў Аку зусім чыстымі...

**Ф. ПРАКУДЗІН:**

— Аналагічныя прыклады можна знайсці і ў нашай рэспубліцы. Вельмі эфектыўныя ачышчальныя збудаванні на Аршанскім льнокамбінаце. Тут ёсць спецыяльны цэх па ачыстцы сцёкаў. Няма ў нас прэтэнзій у гэтым плане і да прадпрыемстваў Міністэрства аўтатранспарту.

Але ўвогуле хваліцца няма чым. На многіх, вельмі многіх прамысловых прадпрыемствах ачышчальныя ўстаноўкі малаэфектыўныя або іх зусім няма. Вось на тым жа Беларускім аўтазаводзе ўжо 10 гадоў рашаецца пытанне аб ачышчальных збудаваннях, ды так справа з месца і не рухаецца. То праектныя арганізацыі падводзяць, то яшчэ нешта.

**У. БРАЗГАЎКА:**

— Наогул з праектаваннем ачышчальных збудаванняў, каналізацыі, водаправода сапраўды неразбярыха. Гэтым займаюцца «Белдзяржпраект», «Мінскпраект», «Белкамунпраект», «Белпрампраект», Мінскае аддзяленне інстытута «Саюзводаканалпраект», «Укрвадаканалпраект», «Укргіпракамунбуд». Кожны даказвае сваё, цягне ў свой бок — а ў выніку добрых праектаў у нас няма.

**Ф. ПРАКУДЗІН:**

— Ачышчальныя ўстаноўкі ў нас будуюцца ў самую апошнюю чаргу. Узяць, да прыкладу, Мінскую станцыю аэрацыі, якая патрэбна гораду, як паветра. Узводзяць яе дзесяць гадоў, але пакуль далей механічнай ачысткі сцёкавых вод справа не ідзе, хоць яшчэ пазалетась, згодна з праектам, станцыя павінна была распачаць біялагічную ачыстку. Дарэчы, праектная магутнасць станцыі 215 тысяч кубаметраў вады ў суткі, а прыходзіцца прымаць зараз больш 300 тысяч. Трэба ставіць пытанне аб будаўніцтве другой чаргі станцыі.

Мінск — не выключэнне. З 1963 года будуецца станцыя аэрацыі ў Гродна (тут без яе наогул не абыйсціся, бо на пітво ў горадзе ідзе рачная вада), з 1965 года — у Салігорску. Не дачакаюцца гарадскіх ачышчальных збудаванняў віцябляне. Гэта ўсё на сумленні камунальнікаў. Калі па рэспубліцы ўвогуле забруджванне вадаёмаў трохі спынена, дык непасрэдна бытавымі адыходамі — наадварот узрасло.

**У. БРАЗГАЎКА:**

Не хапае сродкаў — вось прычына зацягвання будаўніцтва ачышчальных установак. Тым не менш за апошнія гады станцыі аэрацыі, каналізацыйныя сістэмы пабудаваны амаль ва ўсіх абласных цэнтрах.

Зараз мы ўкараняем вельмі каштоўную навінку, распрацаваную нашай Акадэміяй навук. Маецца на ўвазе электрахімічная ачыстка сцёкавых вод, так званы спосаб электракаагуляцыі. Ён адносна танны і даступны нават невялікаму прадпрыемству. Інстытут «Белкамунпраект» распрацаваў доследны ўзор электракаагуляцыйнай установкі, якая будзе выпрабоўвацца на Мінскім шарыкападшыпнікавым заводзе. Калі ўсё будзе добра, такія ўстаноўкі знойдуць сабе месца ў скуранай прамысловасці, на аўтарамонтных заводах.

Што датычыць Мінска, дык перавод станцыі аэрацыі на поўную біялагічную ачыстку значна палепшыць санітарны рэжым Свіслачы...

**Пётр Іванавіч РАТАЙКА,**
начальнік «Белрыбвода»:

— Баюся, хутка мы застанемся без рыбы. Вось тая ж Свіслач. Колькі бруду, колькі атруты, ад якой гіне ўсё жывое, нясуць яе воды. З-за Свіслачы забруджваецца Асіпавіцкае вадасховішча, дзе з кожным годам усё менее і менее рыбы. Ды ці толькі тут? Рыба, якую ловяць у Дняпры паміж Магілёвам і Быхавам, так пахне газай, як быццам яе спецыяльна вымочвалі ў нафце. Асабліва забруджвае Днепр Магілёўскі завод штучнага валакна, які не мае эфектыўных ачышчальных установак. Не адзін раз мы яго штрафавалі, але ўсё ідзе па-старому.

Вялізную шкоду нашым рыбным запасам наносіць атручванне рэк і азёраў гербіцыдамі, штучнымі ўгнаеннямі, гноем. Дзіву даешся, з якой бесклапотнасцю, абыякавасцю ставяцца да гэтага кіраўнікі некаторых калгасаў і саўгасаў. У Мядзельскім раёне ёсць возера Баторына. Раней яно славілася ваграмі — адной з самых каштоўных нашых рыб. І раптам вугры пачалі гінуць. Што за прычына? На месца выехала аўтарытэтная камісія на чале з акадэмікам Гараглядам. Высветлілася, што мясцовы калгас пабудаваў на беразе Баторына летні свіны лагер і ўся гноевая жыжка адтуль сцякала ў возера. Ад гэтага і загінулі вугры.

А колькі выпадкаў, калі ў вадаёмы спускаюць рэшткі аміячнай вады — страшнай атруты для рыбы. Або ўявіце такі малюнак. Над полем лётае самалёт сельскагаспадарчай авіяцыі — сее ўгнаенні, або гербіцыды. А на ўскраі поля — рачулка. Запэўняю вас, наўрад ці пасля такой «авіяапрацоўкі» застанецца ў рэчцы штонебудзь жывое.

**Ф. ПРАКУДЗІН:**

— Перад кожным буйным горадам вы ўбачыце плакат, які папярэджвае, што ўезд на брудных машынах строга забараняецца. І вось, калі ласка,— у моечную ператвараецца бліжэйшая рачулка. Ад'ехала машына, і па воднай люстрадзі паплылі масляністыя плямы.

З вудай на такую рачулку лепш не прыходзь — рыбы тут няма.

Скажу больш, некаторыя гарадскія ўлады замест таго, каб абсталяваць спецыяльныя моечныя пункты для аўтамашын, робяць пад'езды, масткі каля рэчак, каб шафёрам было зручней мыць машыны. Гэта ж асаблівых клопатаў не патрабуе, ды і танней абыходзіцца.

**П. РАТАЙКА:**

— Вось таму мы, рыбнікі, з такім задавальненнем сустрэлі праект Асноў воднага заканадаўства. Калі яно будзе строга праводзіцца ў жыццё — рыба адчуе сябе вальготней. Узяць хаця б артыкул 35, дзе канкрэтна гаворыцца, што выкарыстанне водных аб'ектаў для зліву вытворчых, бытавых і іншых відаў адкідаў забараняецца.

Узрадавала нас і тое месца ў Асновах, дзе забараняецца сплаў лесу молем па водных аб'ектах, якія маюць асаблівае значэнне для рыбнай гаспадаркі.

Бо зараз бярвенні скідаюць абы як у раку — і хай плывуць. Адно прыстане да берагу, другое патоне, пачынае гніць. Дзе ж тая рыба будзе...

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— Пётр Іванавіч, у нас часта гавораць і пішуць пра тое, што пэўную шкоду рэкам і азёрам наносіць няўмелая меліярацыя.

**П. РАТАЙКА:**

— Няхай не крыўдуюць на мяне меліяратары, але ў нас, рыбнікаў, вялікі рахунак да іх. Я магу прывесці шмат прыкладаў таго, як у выніку непрадуманай меліярацыі гінуць многія азёры і нават рэкі.

Узяць возера Чырвонае ў Жыткавіцкім раёне. Вялізнае было возера, больш пяці тысяч гектараў. І рыба вадзілася, бралі да 70 кілаграмаў з гектара. Сёння ў Чырвоным рыбы амаль няма. Возера так абмялела, што не ўсюды праедзеш на лодцы — гразь. Прычына? Меліяратары спусцілі ваду.

Возера. Вечар каля Любані. Пасля меліярацыйных работ засталося без вады. Тое ж самае на азёрах Арэхаўскім, Чорным і Белым у Брэсцкай вобласці...

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— У гэтай сітуацыі, Леанід Іванавіч, вы апынуліся ў становішчы апанента. Вашы аргументы?

**Леанід Іванавіч БЕРДЗІЧАВЕЦ,**
намеснік міністра меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР:

— Па прафесіі я меліяратар, гідраінжынер і таму, здаецца, магу прэтэндаваць на нейкую кампетэнтнасць у такіх пытаннях. Вось чаму з усёй катэгарычнасцю заяўляю, што многае, вельмі многае ў крытыцы нас, меліяратараў, не мае пад сабой ніякай падставы.

Некаторыя з нашых крытыкаў даходзяць да таго, што сцвярджаюць, быццам асушэнне, скажам, Палесся, ператворыць гэты раён у... Сахару.

Чытаеш некаторыя артыкулы, нарысы, аповесці, і дзіву даешся — адкуль тая туга па старым, аджытым. Не магу абысці маўчаннем падарожныя нататкі пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, змешчаныя ў часопісе «Маладосць». Не буду гаварыць пра мастацкія вартасці твора — тут я не спецыяліст, хаця і дапускаю, што мастацкі ўзровень яго дастаткова высокі. Але погляды, безапеляцыйнасць аўтара мяне абурылі. Ён з замілаваннем ставіцца да старога Палесся, лье па ім слёзы. Але ж у нас сёння кожны школьнік ведае, што такое старое Палессе, ведае па творах Коласа, Купалы, Мележа. Згубленыя сярод дрыгвы бедныя вёсачкі, куды не праехаць ні вясной, ні восенню, гаротнае жыццё палешукоў, якія і людзьмі не зваліся. І калі на месцы балотаў зараз квітнеюць палі, калі праз былыя балоты пралеглі дарогі — як гэтаму не радавацца!

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— Гэта ўсё бясспрэчна. Але з песні слова не выкінеш — там-сям меліяратары перагнулі кій. Ёсць мясціны, якія раней захлыналіся вадой, а зараз, пасля меліярацыі, пакутуюць ад смагі. Трапілі з агня ды ў полымя... Я сам бываў у палескіх вёсках, дзе са студняў знікла вада, дзе на палі наступае пясок...

**Л. БЕРДЗІЧАВЕЦ:**

— Я спачатку адкажу наконт студняў, бо мне такія папрокі часта прыходзіцца выслухоўваць. Тут вельмі да месца прымаўка: «Лес рубаюць, трэскі ляцяць». Так, сапраўды, калі спраміць рачулку — а зрабіць гэта бывае неабходна, інакш ніякага эфекту ад меліярацыі не будзе — узровень грунтовых вод недзе панізіцца, і студні ў вёсцы, што размешчана побач, прыйдзецца паглыбляць. Але ж чаму лю-

дзі забываюць, што праз год-два яны змогуць выкарыстаць сотні і сотні гектараў тлустага тарфяніку, над якім яшчэ нядаўна калыхалася балота з камарамі?

Што датычыць асушаных мясцін, якія зараз патрабуюць абваднення, дык такія факты ёсць. Але на ўсякую з'яву трэба глядзець, як кажуць, гістарычна. Асушэнне палескай нізіны ў нас пачалося ў асноўным пасля вайны. Сродкаў, зразумела, не хапала — было шмат іншых клопатаў. Меліярацыя гектара лімітавалася сумай у 200—250 рублёў. Гэтых сродкаў хапала толькі на тое, каб спусціць ваду. І ўсё роўна, калі падлічыць плюсы і мінусы нават такой, мо трохі і прымітыўнай меліярацыі — плюсаў у многа і многа разоў больш.

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— У праекце Асноў воднага заканадаўства падкрэсліваецца, што ўвод у эксплуатацыю асушальных сістэм да гатоўнасці водапрыёмнікаў і іншых збудаванняў у адпаведнасці з зацверджаным праектам строга забараняецца.

**Л. БЕРДЗІЧАВЕЦ:**

— Такія парушэнні ў нас бывалі. Але ў апошнія гады мы будуем меліярацыйныя сістэмы двухбаковага дзеяння, яны не толькі асушаюць, але і рэгулююць сцёк, калі трэба, падаюць ваду на асушаныя ўчасткі. Дадамо, што такія сістэмы пабудаваны ўжо на 150 тысячах гектараў.

**КАРЭСПАНДЭНТ:**

— Значыць, крытыка грамадскасці трохі дапамагае?

**Л. БЕРДЗІЧАВЕЦ:**

— Крытыка грамадскасці заўсёды дапамагае. Але дзеля высвятлення ісціны скажам, што меліярацыя двухбаковага дзеяння была распрацавана беларускімі вучонымі яшчэ да Айчыннай вайны. У вайну праекты былі згублены і адноўлены ўжо ў пасляваенны час. Мы маем магчымасць іх ажыццявіць, бо зараз дзяржава нам дае на меліярацыйныя работы столькі грошай і тэхнікі, колькі трэба.

У двух словах раскажу, што такое меліярацыя двухбаковага дзеяння. Возьмем для прыкладу пінскія балоты. Усе навакольныя землі як губка, перанасычаны вадой. Меліярацыйнымі каналамі, сістэмай шлюзавання, мы адводзім ваду з палёў у вадасховішчы. Калі трэба, у любы момант ваду зноў можна падаць на палі.

Сёння гэта асноўны кірунак у меліярацыі. Ён, думаю, спыніць спрэчкі вакол гэтага пытання.

Каб падмацаваць сказанае, дадамо, што толькі на Палессі будзе пабудавана 17 вадасховішчаў агульнай ёмкасцю 1,5 мільярда кубаметраў. Два з іх пабудаваны ўжо — Любанскае і Салігорскае.

**П. РАТАЙКА:**

— У нас, часам, робяць вадасховішчы без папярэдняй ачысткі ложа. Заліваюць з усім, што ёсць — дробнымі дрэўцамі, хмызняком. Потым усё гэта пачынае гніць. Рыба ў такой вадзе адчувае сябе вельмі няўтульна. Дарэчы, так зрабілі на Мінскім і Любанскім вадасховішчах... Вельмі добра, што ў Асновах заканадаўства забараняецца напаўненне вадасховішчаў да ажыццяўлення мерапрыемстваў па падрыхтоўцы ложа.

**Л. БЕРДЗІЧАВЕЦ:**

— Пры Любанскім вадасховішчы створана сетка сажалак для развядзення рыбы плошчай 2,5 тысячы гектараў. Усяго на Палессі будзе пабудавана 19 поўнасістэмных рыбных гаспадарак і 410 калгасных і саўгасных сажалак.

Каб супакоіць аматараў прыроды, паведамляю, што схемай асушэння Палескай нізіны прадугледжваецца стварэнне запаведніка плошчай 150 тысяч гектараў паміж рэкамі Львой і Ствігай. У запаведніку мяркуецца стварыць некалькі апорных пунктаў АН БССР, на якіх будуць вывучацца флора і фаўна Палесся.

А цяпер для аматараў добрай шкваркі ды белай булкі (думаю, усе мы такія аматары): на асушаных землях Палесся запланавана арганізаваць 72 саўгасы, за якімі будзе замацавана ні многа, ні мала — 360 тысяч гектараў зямлі.

□

Чатыры інтэрв'ю, чатыры розныя пункты гледжання па адным і тым жа пытанні. Не будзем падводзіць вынікі гэтай імправізаванай дыскусіі, думаецца, чытач сам зразумее, што да чаго. Ясна адно — пакуль што не на беразе кожнай ракі рызыкнеш адпачыць, не да кожнай сажалкі падыдзеш з надзеяй злавіць на вуду якога ляшча.

Вада, вада, вада... Наша вялікае багацце, якога ў нас не так ужо аказваецца і многа. Будзем помніць пра гэта. Дзеля нас, дзеля нашых нашчадкаў.

Гутарку вёў М. ЗАМСКІ.

Васіль ВІТКА

# ЗАЛОМШЧЫКІ

Днямі, ідучы паркам імя М. Горкага, раптам пачуў за сабою выклік захаплення:

— Вось гэта здаравяк!

Госпадзі, ці не я здаўся некаму здаравяком?

Я азірнуўся.

Малады, інтэлігентнага выгляду мужчына — інжынер, урач, спартсмен, — не ведаю хто, адным словам, сучасны цывілізаваны мінчанін паказваў сваёй маладой спадарожніцы новенькі мосцік цераз ручаіну, якая перасякае парк.

Што захапіла іх увагу — адразу я не зразумеў, зірнуўшы на мосцік: яго выфарбаваныя парэнчы зіхацелі на сонцы. І раптам я ўбачыў — адна з іх, тоўсты металічны прэнт, прыгнута зверху ўніз настолькі, што ўтварыла перавернутую дугу. Вось што выклікала захапленне маладых людзей! Сапраўды, трэба было мець сілу бугая, каб гэтак выгнуць жалеза.

І тут у галаву мне стукнула думка: наколькі ж я адстаў ад сучасных уяўленняў аб характве і значэнні сілы! Відаць жа, каб я ўбачыў пераламаную парэнчу, першае, што я сказаў бы: — Ну, і свалата, ну і падлюга ж!

Такой бы яна і была, псіхалагічная рэакцыя, маё разуменне той сілы, праявы якой вельмі ж часта не толькі відны, а кідаюцца ў вочы на кожным кроку: скрышаныя, разварочаныя лаўкі, пабітыя каменнямі электрычныя ліхтары і лямпы на слупах, раструшчанае шкло ад посуду, асушанага аматарамі «культурна» пасядзець на ўлонні прыроды, — дый ці мала іх, слядоў штодзённага варварства на нашай зямлі?

З трывогай даўно заўважаю, што часам у маладога гараджаніна вельмі мала павагі да таго, што робіцца, ствараецца для яго ж дабрабыту, дзеля прыгожасці, якая б цешыла яго вока, выхоўвала яго эстэтычны густ.

Калі будавалі каля музея Янкі Купалы першы, самы вялікі ў Мінску, фантан, яго гарлавіну, каб падсвечваць ваду, выклалі каляровым шклом. Аднае раніцы я выганяў адтуль, з фантана, падлеткаў, якія зубілам выбівалі гэтыя каляровыя пліткі. Дзеля чаго спатрэбіліся яны — патоўчаныя, патрушчаныя на дробныя кавалачкі — дзецям? А так, дзеля забаўкі. Гэта былі дзеці з дома цераз вуліцу, што насупраць фантана і садка, у якім яны гуляюць штодня цяпер і будуць гуляць, калі стануць пенсіянерамі.

Пачалася самая шчаслівая пара года — вясна. Каго ў вольную хвіліну і асабліва вечарам не вабяць паркі, скверы, нашы плошчы і вуліцы! Але паглядзіце, якія сляды дрымучага дзікунства застаюцца ў кожным кутку і ля кожнай лаўкі, дзе пабывала «цёплая» гітарная ці субутэльная кампанія! Даволі цяжкія сляды, якія назаўтра ўсю раніцу вымушаны выграбаць і вычышчаць нашы самаахвярныя жанчыны-прыбіральшчыцы. Дарэчы, нікога ў нас так не папракаюць вялікімі заработкамі, як прыбіральшчыц.

— За што грошы бярэ? Няхай прыбірае!

І вось там, дзе пасядзіць вечарок падобная кампанія, ужо цэлыя горы смецця: недакуркаў, лушпіння, папяровага ашмоцця, бляшанкі ад кансерваў і нават не кавалкі хлеба, а пакрышаныя, паламаныя цэлыя буханкі. Як хутка забыліся некаторыя барадатыя і вусатыя нашы нашчадкі, якою цаною ён абышоўся іх бацькам, гэты хлеб!

Я ўжо не кажу аб такіх адзнаках хлапецкага дзікунства, як віртуознае цырканне праз зубы, якому мог бы пазайздросціць вярблюд.

На кожным кроку стаяць урны, але для нашых юных сучаснікаў — гэта ўжо атрыбуты старажытнай цывілізацыі.

Дарагія мае мінчане, а ці мала хто з вас не затыкаў насоў, праходзячы цераз пад'езды і лесвічныя пляцоўкі сваіх дамоў? Смурод забівае дых. Гэта таксама сляды нашых сяброў, але зусім не тых, што пакідаюць свой «аўтограф», папярэдне абнюхаўшы вугал дома. Гэтыя распіваюцца, не нюхаючы, і з куды большым заліхвацкім росчыркам!

Адкуль ідзе гэтае шкодніцтва? А ўсё ад той жа заліхвацкасці, ад маладзецкага імкнення паказаць «силушку богатырскую». Рэдкарэдка хто цяпер выступае ў адзіночку. Заліхвацтва прыстасавалася да сучаснасці. Якая цікавасць ставіць «рэкорды», каб ніхто не бачыў? Так і нараджаецца тая «мастацкая» самадзейнасць, якая выклікае захапленне: «Ах, які здаравяк!» Іначай — навошта ж сілу траціць? Той малады бугай, які ламаў парэнчы маста, я ўпэўнены, рабіў гэта не дзеля сваёй асабістай пацехі, не тайна, а на вачах аўдыторыі падобных сабе, у крайнім выпадку — прысвяціў гэты рэкорд рыцарства... ёй, сваёй Дульцынеі. Пры поўнай адсутнасці разумовых і душэўных якасцей, чым жа можна пахваліцца, як не сілай?

А ёсць у нашым побыце з'явы, якія ўжо мала каго трывожаць. Хто з нас, гараджан, не бачыць, як тыя ж «рыцары» ў нашых кволенькіх садках і скверыках ломяць дрэвы, латошаць кусты бэзу, што не паспеў яшчэ прыжыцца, разрасціся як след, топчуць ружы, выварочваюць з карэннем цюльпаны, гладзіолусы, а зацвітуць вішні і яблыні — не пашкадуюць і іх. Тое, што расце, цвіце на вачах усіх— для сучаснага дзікуна яшчэ не краса, не асалода. Толькі тады ён у поўным шчасці, калі ўсё будзе скрышана, спляжана — перацягнута ва ўласную «камфартабельную» пячору.

Не ведаю, ці ёсць у нашым гарсавеце статыстыка, якая падлічвае ўсе гэтыя страты, што наносяцца нашаму гораду кожны год, і якая тэндэнцыя росту або зніжэння гэтых страт.

Не можа не трывожыць усіх нас іншая статыстыка, якую весці значна цяжэй, але з якою мы павінны змагацца ўсімі магчымымі сродкамі: гэта тыя этычныя страты, тыя духоўныя калецтвы, якія наносяць перш за ўсё самі сабе, уласнымі рукамі ўласнаму сумленню тыя, хто шкодзіць, гнюсіць і брыдзіць ва ўласным калектыўным доме, і тыя, хто бачыць гэта і не лічыць усё гэта небяспечным маральным злачынствам.

Калісьці ў старой вёсцы самым страшным злачынствам быў залом у жыце— пучок каласоў, заламаных і скручаных вузлом. Гэта азначала, што ў вас ёсць закляты вораг, які жадае вам няшчасця. Калі жыта зжыналася, залом пакідаўся некранутым. Ён заставаўся на полі жахлівым напамінкам і дакорам таму, хто зрабіў гэтае злачынства.

Ніякія дакоры сумлення, на жаль, не мучаюць сучасных заломшчыкаў.

Давайце, людзі добрыя,— усё зробім дзеля таго, каб родная цярплівая наша зямля, кожны горад і вёска не пакідалі не заўважанымі ніводнага злачыннага залому!

ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ

# СУСТРЭЧА ПРАЗ 29 ГАДОЎ



Яны сустрэліся ў рэдакцыі. Справа налева: І. Калеснік, В. Шомадзі, Я. Рыбак і журналіст І. Каршакевіч.
Фота Ул. КРУКА.

Расставанні і сустрэчы... Пасля вайны, што вогненнай віхурай пранеслася над нашай зямлёй, маці ўсё яшчэ шукаюць дзяцей, дзеці — бацькоў, шукаюць адзін аднаго былыя аднапалчане...

Гэтыя трое не бачыліся 29 гадоў. З 24 чэрвеня сорак першага...

Але ўсё па парадку. У 1964 годзе ў «Літаратуры і мастацтве» з'явілася нататка «Па слядах подзвігу». Журналіст Ігар Каршакевіч расказаў пра пошук воінаў 55-й стралковай дывізіі, якая ў самым пачатку вайны грудзьмі стала на шляху гітлераўцаў на Брэсцкай шашы пад Баранавічамі.

Сярод самых мужных быў малады лейтэнант-артылерыст Віктар Шомадзі, сын венгерскага рэвалюцыянера. Пра яго не раз пісалі ў тыя цяжкія дні франтавая і армейская газеты.

Як склаўся лёс артылерыста, ці выжыў ён у віхуры вайны? Доўга следапытам не ўдавалася нічога высветліць. Але неўзабаве стала вядома, што палкоўнік Віктар Эрнеставіч Шомадзі жывы, здаровы і служыць ў Савецкай Арміі.

І. Каршакевічу ўдалося адшукаць і некаторых іншых байцоў 55-й дывізіі, якія сталі насмерць у чэрвені сорак першага. Сярод іх — Івана Мінавіча Калесніка і Якава Рыгоравіча Рыбака. Пра гэты пошук у свой час таксама пісала «Літаратура і мастацтва».

...Яны рассталіся маладымі дваццацігадовымі хлопцамі, сустрэліся тут, у рэдакцыі, сівымі ветэранамі. І пачаліся ўспаміны, успаміны...

Віктар Эрнеставіч, цяпер ужо генерал, расказвае, і ў пакой нібы ўрываецца гарачы подых вайны. Цяжкія баі пад Слонімам, Баранавічамі, Ляхавічамі з танкавымі калонамі фашыстаў. Батарэя лейтэнанта Шомадзі прамой наводкай страляе па ворагу. Потым яго батарэя, да апошняга снарада білася пад Прапойскам.

— Зараз гэта трохі дзіўна гучыць — конная артылерыйская батарэя, — усміхаецца Віктар Эрнеставіч, — а між іншым — грозная зброя. Мы тады, у першыя дні вайны, пабілі нямала фашыстаў.

За бой пад Прапойскам лейтэнант Віктар Шомадзі быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Дарэчы, ордэн гэты знайшоў яго толькі ў сорак трэцім.

Эпізоды, эпізоды ледзь не трыццацігадовай даўнасці. Яны запалі ў сэрца мабыць назаўсёды. Таму так усхвалявана блішчаць вочы генерала. Помніцца яму кожны ручай, ля якога біліся, кожны баявы сябар.

— А помніце, хлопцы, маёра Варапаева? Ён яшчэ ў Іспаніі выяваў, які герой быў! Дзякуючы яго мужнасці, вопыту полк наш выйшаў з акружэння, выйшаў калі здавалася, што ўсё скончана. А мой палітрук Шлееў, а старшы лейтэнант Марозаў?..

— А помніце, Віктар Эрнеставіч, як ваша батарэя пад Прапойскам збіла нямецкую «раму», — пытаецца Іван Мінавіч Калеснік.

— Так, так, не было ад яе жыцця. Кожны дзень у адзін і той жа час вісіць і вісіць над галавой, карэкціруе агонь гітлераўскай артылерыі... Аднойчы я загадаў бабахнуць па ёй. Ведаеце, бывае і зенітчыкі лупяць у белы свет, а тут мы, не зенітчыкі, а трапілі. Удача...

«А помніш, а помніш»... У пакоі гучаць прозвішчы сяброў, што не прыйшлі з вайны.

Праходзяць вёсны і зімы, праходзяць гады і гады, а тыя, што загінулі, заўсёды з намі, у нашай удзячнай памяці. Яны з намі ў квітнеючых садах, у новабудоўлях, у шчаслівых усмешках дзятвы.

Сустрэча, пра якую мы расказалі, адбылася 8 мая, напярэдадні 25-годдзя вялікай перамогі над фашысцкай Германіяй. У той дзень сотні і тысячы вянкоў леглі ля падножжа помнікаў вядомым і невядомым героям Вялікай Айчыннай.

Могуць спакойна спаць героі—дзеці прынялі эстафету бацькоў. Яна ў надзейных руках.

М. МІХАЙЛАЎ.

# ЗАПАВЕТНАЕ

На кніжцы Янкі Скрыгана «Кругі», адразу ж пасля назвы, стаіць яшчэ адзін загаловак — «Выбранае».

Чаму ж звычайны збор твораў, для якога хапіла б адной назвы «Выбранае», носіць яшчэ адну — «Кругі»? Навошта дзяліць зборнік на чатыры часткі, кожная з якіх мае зноў жа сваю назву («Парог», «Світанак», «Трывогі», «Сугучча»)? Наколькі апраўдана тое, што кніжка мае адзін агульны эпіграф?

Пытанняў узнікае вельмі многа і, каб адказаць на іх, трэба прачытаць «Кругі» цалкам, усе творы па парадку, не прапусціўшы ніводнага. І тады само сабою пачынае вырастаць усведамленне таго, што гэтая кніжка — не проста зборнік лепшых твораў, а цэласны, адзіны як па сваёй ідэйнай задуме, так і па кампазіцыйным вырашэнні, вельмі сучасны і нібы зусім новы твор Янкі Скрыгана.

Адно з апавяданняў называецца «Як спявалі песню». У хаце добрай, паважанай калгасніцы Аксені Барнацкай — свята. З далёкіх цалінных земляў нечакана прыехаў у госці яе малодшы брат Уладыслаў. За святочным сталом, дзе сабралася ўся вялікая Аксеніна сям'я, гучыць песня:

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем шуміць...

Зліліся, сашчапіліся і плывуць два галасы: адзін — шумам і рэхам дуброў, другі — у бяскрайняй высі паднябесся, і не могуць, не могуць ніяк разлучыцца і плывуць без канца».

Здавалася б, вось і ўсё апавяданне. Але за яго не новай фабулай скрываецца значна большае: лёгкімі, амаль непрыкметнымі штрыхамі аўтар паказвае, як кожны з гасцей, задумаўшыся, ярка бачыць тыя, прапетыя ў песні часы.

«У руках у Уладыслава тузаецца кулямёт, і па тым, што ён тузаецца, Уладыслаў ведае, што ён страляе і што гэта ад яго плешчацца і крычыць у чужых вачах жах. Твары падымаюцца і падаюць, падымаюцца і падаюць... можа адзін, можа два — можа безліч... і пасля — стаіць немая цішыня, шуміць толькі адна векавечная пушча...»

Апавяданне пакідае такое ўражанне, што песня «Ой, бярозы ды сосны...» складзена не яе сапраўднымі аўтарамі, а вось гэтым, па-чалавечы харошым і шчырым застоллем. Але працэс нараджэння песні ў сэрцах гэтых людзей не зусім звычайны: яны не шукалі рытмаў і рыфмаў. Песню нарадзілі тыя незлічоныя выпрабаванні, што выпалі на долю кожнага з іх.

У гады белапольскай акупацыі на хутары ў Аляксея Скрыгана, бацькі пісьменніка, жыў падпольшчык, які для канспірацыі сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці наладзіў пактарню і рабіў галандскія сыры. Калі надышло вызваленне, «гэты чалавек вельмі дзякаваў бацьку за прытулак». Больш за трыццаць гадоў непакоіў аўтара добра вядомы яму матэрыял і стаў несумненна моцнай асновай для апавядання «У Кірылы на хутары».

Творчая гісторыя гэтага апавядання яшчэ раз пацвярджае, што амаль усё напісанае Я. Скрыганам «хоць нечым ды прывязана» да яго біяграфіі. Нават «Таіса», якую аўтар лічыць самым небіяграфічным творам, ідзе сваімі вытокамі ў далёкія для пісьменніка гады яго дзяцінства, бо ў «Кругах» ён зазначае, што «для апавяданняў часоў інтэрвенцыі браў вобразы з свайго маленства».

Такім чынам, «Кругі» — перш за ўсё творчая біяграфія самога пісьменніка, што не дазваляе разглядаць кнігу толькі як зборнік выбраных твораў.

Дзяцінства пісьменніка прайшло «крыкамі імперыялістычнай мабілізацыі». Ён памятае і іншае: «мітынгі, бальшавіцкі спісак на выбары, немцаў, палякаў, балахоўскія банды, партызаншчыну». У літаратуру прыйшоў разам з Петрусём Броўкам. Ведаў Купалу, Коласа, Чорнага, Зарэцкага. А потым прыйшлося «аж на васемнаццаць з лішкам гадоў перамяніць прафесію»...

Няма сумненняў, што чытач адкрые ў кнізе яшчэ адну характэрную рысу гэтага летапісу: аўтар не так клапоціцца аб паўнаце адлюстравання свайго шляху, як імкнецца паказаць праявы і заканамернасці наогул чалавечага жыцця, раскрыць на аўтабіяграфічным матэрыяле найбольш тыповыя рысы свайго сучасніка.

У гэтых адносінах цікава тое, што кніжка пачынаецца моцным па сваёй публіцыстычнай накіраванасці запевам: «І я люблю цябе, маці мая. І ўсе твае магілы. І ўсе папялішчы. І курганы. І тыя, старадаўнія, і ўчарашнія, што асталіся як памяць найлюцейшага змагання з самай страшнай пачварай — чорнай свастыкай. Гэтыя ахвяры — святыя. Яны загінулі за тое, каб жыць нам далей.

Бацькаўшчына!»

За спіной героя «Кругоў» застаецца «парог»; шукаючы свайго месца ў жыцці, ён праходзіць «світанак»; пасля зазнаў трагізм і роспач, зведаў цану радасці і надзей («Трывогі»); і як вынік пройдзеных нялёгкіх кругоў гучаць наступныя словы: «І я зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — бацькаўшчына» («Сугучча»).

Для назвы сваёй кніжкі Я. Скрыган выбраў адвечнае, дзесьці яшчэ ад «Боскай камедыі» Дантэ слова «Кругі». У ім пераплецена і знітавана ўсё, што падуладна чалавечаму жыццю: любоў, нянавісць, страх, адвага, адчай, барацьба.

Гаворачы пра адзінства кампазіцыйнага вырашэння «Кругоў» нельга не адзначыць адну цікавую своеасаблівасць.

Прыгадаем вобраз Ульяны, сястры пісьменніка. Маленькі хлапчук самастойна прачытаў першае слова ў сваім жыцці: «сре-да». Яго здзівіла, чаму яно няправільна напісана: не «серада», а «среда». «Але Ульяна растлумачыла, што напісана то правільна, а мы няправільна гаворым. Мы мужыкі, і ў нас мова мужыцкая...» Так упершыню адбываецца знаёмства чытача з Ульянай, з гэтай бяспраўнай, цёмнай жанчынай, якая нават напярэдадні рэвалюцыі шчыра верыць і спадзяецца на дабрату свайго пана.

Яшчэ раз Я. Скрыган звяртаецца да лёсу Ульяны, пішучы пра 30-я гады — час калектывізацыі. Цяпер жанчына ведае сабе цану, знае плён сваёй працы. Гэта робіць яе шчырай, шчаслівай і нязломнай.

І яшчэ адзін эпізод з жыцця Ульяны — у канцы кнігі. Апошняя сустрэча з ёй адбываецца пасля Вялікай Айчыннай вайны, якая забрала ў яе ўсіх сыноў, знявечыла і прыкавала самую Ульяну да пасцелі. Нягледзячы на гэта, «яна, аднак, ва ўсім вялаарэй, ведала, чым жыве свет, раіла людзям, як жыць, як берагчы калгас, любіць зямлю. І ўсім наказвала шанаваць партыю. Больш за ўсё дзівіла мяне гэтая яе мудрасць».

У «Кругах» Я. Скрыган паказаў сябе сапраўдным майстрам яркага і пераканаўчага партрэта. У якасці прыкладу хочацца прывесці партрэтны эскіз Барыса Пастарнака: «Запомніўся Барыс Пастарнак. Твар цяжкі, скасабочаны, парушаны ў прапорцыях, так, што, здавалася, ён зроблены з многіх твараў, не зусім дапасаваных адзін да аднаго. Мы ехалі з ім у трамваі. Сказаўшы слова ці два, ён тут жа замкнуўся ў самога сябе. Стаяў на праходзе, узяўшыся за почапку ўверсе, і ўвесь час варушыў губамі і пагойдваўся, ловячы нейкія рытмы».

Мову твора Я. Скрыгана можна назваць узорнай. Менавіта ўменне аўтара знайсці самае адпаведнае, самае дакладнае слова дапамагае яму ствараць тыповыя, абагульняючыя карціны чалавечага жыцця.

Скончу тым, з чаго пачаў. Цэласнасць, унутранае і знешняе адзінства «Кругоў», эмацыянальнасць, патэтычнасць мовы кнігі дазваляюць ацэньваць яе не як «Выбранае», а як паэму пра нараджэнне запаветнай песні чалавека.

М. ДЗЯШКЕВІЧ.

Янка Скрыган. «Кругі». Выбранае. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.

# У ДАРОЗЕ

Гэта неяк нязвыкла: у адной маленькай кніжачцы — гумарэскі і сур'ёзныя апавяданні, замалёўкі пра дзяцей і для дзяцей. Але разам з тым гэта, відаць, і добра: бо бачыш аўтара з розных бакоў — то ён жартуе, то робіцца задумлівым, то вядзе шчырую размову аб вернасці і каханні, сям'і і дружбе. Кніжачка гэтая — зборнік Яўгена Каршукова «Сустрэча».

Ёсць у ім невялічкае апавяданне «Бомба ў жыце», з якога мне і хочацца пачаць гаворку.

Тры вясковыя хлапчукі хочуць дабрацца да нямецкай бомбы, што ляжыць, не разарваўшыся, у жыце. Але бомбу сцеражэ «страшная» Панасіха, пажылая няшчасная жанчына. Яна (у каторы раз!) адганяе дзяцей ад бомбы і, злавіўшы аднаго з іх, замест таго, каб пакараць, прыціскае да сябе:

— Віцечка, сынок, родненькі мой... Ну, чаму ж, чаму ж ты мяне не слухаеш? Чаму? Ці ж я не прасіла, ці ж я не маліла цябе — не лезь ты да етых снарадаў... От дурненькі, от непаслухмянец! Ты ж адзін у мяне, адзін...

Віця — гэта сын Панасіхі, які загінуў ад бомбы. У хвалюючым заклінанні Панасіхі я чую боль звар'яцелай ад гора маці, бачу яе клопат пра тое, каб не дапусціць новага гора і новага няшчасця.

Асабіста мне «Бомба ў жыце» нагадала цяжкія дні пачатку Вялікай Айчыннай вайны, калі мне ў складзе знішчальнага батальёна давялося стаяць пад Чавусамі Магілёўскай вобласці. Ад метадычнай варожай бамбёжкі дзеці ў вёсках развучыліся спаць. Вочы іх ліхаманкава гарэлі, а вусны шапталі толькі два словы: «Мамачка, уратуй».

Апавяданне Я. Каршукова «Бомба ў жыце» здаецца мне ў нейкай ступені ключавым для ўсяго зборніка. Аўтар са сваімі героямі жыве турботамі аб сённяшнім дні, аб тым, каб нашаму чалавеку жылося добра, каб ніхто не замінала яму, каб кожны з нас берагаў чысціню свайго сэрца і сваіх адносін да грамадства.

Дасціпныя, народжаныя жыццёвымі назіраннямі, і гумарэскі Я. Каршукова. Цікава паназіраць, як аўтар высмейвае рэцыдывы мяшчанства, якія яшчэ бытуюць у нашым жыцці. Герой гумарэскі «Гвадэлупская кофтачка» ніяк не можа дагадзіць сваёй цешчы — і працуе ён не там, і зарабляе не столькі, колькі трэба, і «сувязей» не мае, і г. д. Нарэшце зяць прыносіць падарунак — рыжскую шарсцяную кофтачку, але, ведаючы слабасць цешчы, выдае гэтую кофтачку за імпартную, быццам прывезеную з Гвадэлупы.

Смешны і разам з тым лагічны фінал гумарэскі. Цешча, якая пабачыла «гвадэлупскія кофтачкі» ў кожным магазіне, не вытрымала «абразы» і з'ехала ад дачкі дадому.

Але, адзначаючы станоўчае ў творчасці маладога пісьменніка, хочацца зрабіць некаторыя заўвагі. Так, напрыклад, часам Я. Каршукоў губляе вастрыню сюжэта, звужае грамадскае гучанне думкі, апускаецца да простага пераказу падзей.

У гэтым сэнсе характэрнае апавяданне «На бюлетэні». Маючы вольны час з прычыны лёгкага захворвання, герой расказвае пра сябе і пра сваіх блізкіх усё, што назірае ад таго моманту, калі прачынаецца, і да таго, як зноў кладзецца спаць. Ствараецца ўражанне, што празаік не выбіраў для апавядання самае неабходнае, самае тыповае, тое, што было не толькі фактам жыцця, але магло стаць і фактам літаратуры.

Шкада таксама, што малады празаік не абышоўся ў зборніку і без літаратурных штампаў. Я маю на ўвазе апавяданне «Дзед Мароз». Здаўна, можа з таго часу, калі свет пазнаёміўся з неўміручымі старонкамі «Анны Карэнінай», спатканне з сынам застаецца класічным узорам мастацкай і жыццёвай праўды адносін паміж бацькамі і дзецьмі. Паўторныя варыянты гэтай тэмы не ўздымаюцца вышэй банальшчыны і літаратуршчыны.

М. ГАРУЛЁЎ.

Яўген Каршукоў. «Сустрэча». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1969.

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

### ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»

**Антон Бялевіч.** Мінай Шмыроў. З серыі «Народныя героі». 1970 г. Тыраж 18 500 экз. 132 стар. Цана 19 кап.

**І. Бляеў, А. Сысоеў.** Хроніка салдацкай славы. Нарысы. Мастак Г. Грак. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 18 000 экз. 184 стар. Цана 37 кап.

**П. Кавальскі.** У Брэсцкіх лясах. Запіскі партызана. Літаратурная апрацоўка Аляксандра Міронава. Мастак В. Бароўка. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 50 000 экз. 160 стар. Цана 47 кап.

**А. Кулагін.** Выхаванне мужнасці. Мастак В. Жыжэнка. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 8 000 экз. 88 стар. Цана 12 кап.

**Максім Лужанін.** Збор твораў у трох тамах. Том трэці. Колас расказвае пра сябе. Накіды партрэтаў. Мастак Ю. Зайцаў. 1970 г. Тыраж 6 500 экз. 528 стар. Цана 81 кап.

**Пятро Прыходзька.** Прызнанне. Выбранае. Мастак М. Пракапенка. 1970 г. Тыраж 4 000 экз. 288 стар. Цана 1 руб. 1 кап.

**Сцэнічныя беларускія танцы.** З серыі «Мастацкай самадзейнасці». Складальнік С. Грабеншчыкаў. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 7 000 экз. 72 стар. Цана 34 кап.

**Генадзь Тумас.** Лінкос. З серыі «Першая кніга паэта». Мастак В. Жыжэнка. 1970 г. Тыраж 1 200 экз. 56 стар. Цана 12 кап.

### ВЫДАВЕЦТВА «НАРОДНАЯ АСВЕТА»

**Жыве між нас геній.** Уладзімір Ільіч Ленін у беларускай народнай творчасці і мастацкай літаратуры. Зборнік. Складальнік В. Бурносаў. Мастак Б. Забораў. 1970 г. Тыраж 25 000 экз. 272 стар. Цана 81 кап.

Э. АГУНОВІЧ.
Ілюстрацыі да кнігі вершаў А. Астрэйкі «Прыгоды дзеда Міхеда».

# Паэтычная паверка

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

## У СТАРАЖЫТНЫМ ПАРКУ

У старажытным парку
дрэвам ніякім не цесна.
Растуць яны, звыклыя
да вяселляў, хаўтур і радзін.
Колькі ў жыцці іх пякло,
ліхаманіла, трэсла,
Але не змаўкае песня
мудрых іх вершалін.
Нават тады, як панадзяцца
сквапныя мышы,
І ў каранях сыцеюць,
грызуцца паміж сабой,—
Кожнае дрэва лагодна
па салаўю калыша
І слухае неба начное
з пяшчотаю і журбой.
У старажытным парку
ўлетку стрыгуць газоны,
Даводзяць да ладу кусцікі,
каб пад адзін шнурок.
А дрэвы — нібы званіцы,
узносяць зялёныя кроны,
Туды, дзе вятры віруюць,
дзе пыл аж з усіх дарог...
Самых высокіх і дужых
пільнуе спрадвеку маланка.
Гадаўкай абаўецца,
ды спруцянее сама.
Загояць пісягі асілкі.
І светлая калыханка
З зямлі зноў па іх струменіць.
Долі ў іх іншай — няма.

## ЗЯМНОЕ БЯССОННЕ

### 1. Вячэрні змрок

Калі вячэрні змрок гусцее над
палямі
І над зямлёй яшчэ ні месяца,
ні зор,
Калі ласі з хмызоў шыбуюць
на паляны
І лісянят выводзяць лісы з нор,
Калі рака і берагі у згодзе,
Ні плёскату, ні грукату нідзе,
Калі бязважкасць дзіўная
ў прыродзе,
І на зямлі, і ў небе, і ў вадзе,—

Тады мне цішыня, як ачышчэнне,
А на душы — суладдзе і спакой.
І ціхіх дум дрыготкае свячэнне
Павольна узыходзіць нада мной.
Я сам тады — рака і лес, і поле,
Асілак і маленькае дзіця...
Здаецца мне мая зямная доля
Расінкай на галінччы жыцця.

Адно хачу: упала каб гаюча
На гэты дол за продкамі услед...
І сумна мне, і радасна-балюча,
Нібы ў апошні раз гляджу на свет.

### 2. Спакой цішы начной...

У мой пакой, у мой настрой
Прыходзь, начной цішы спакой.
Спакой цішы начной, прыходзь,
І думкі мулкія ўлагодзь.

Цябе баюся, як бяды.
Як споведзі — вялікі грэшнік.
Але люблю цябе заўжды,
Як любіць ластаўка застрэшнік.

На грані цемры і святла
Лаўлю усе свае кантрасты
І самаспалены да тла,
Уваскрасаю...

Пакручасты
Бяжыць бальшак у цёмны лес.
Над полем зорна і маўкліва.
І цішу чорнай спелай слівай
Начны высмоктвае разрэз.

### 3. Песня вандроўніка

Калі стане жыццё гарчэй палыну,
І самотней журбы асін,
Неўпрыкметку, як гэта было
ў даўніну,
У лясы пабрыду адзін.
Не шукайце тады. Не нацкуйце
сабак.
Ні ружжа ў мяне, ні нажа.
Што вам, дужым, ён зробіць,
блукальнік-дзівак,
Бяскрыўдны, нібы кажан.

Вы не верце, як рaптам успыхнуць
лясы,
І вам скажуць, што я падпаліў.
Я агонь, нібы кроплі гаючай расы,
Толькі ў сэрцы сваім насіў.

Ён мяне спапяляў, бо я доўга
маўчаў,
Не прымаючы крыўду і здзек.
А цяпер я спяваю ў туманных
начах,
Я — жывы, начны чалавек.

Змалку выпалі мне на сваёй
старане
Спёка,
дождж,
маразы,
слата.
Калі добра вам жыць, дык
забудзьце мяне,
І паклічце, калі — бяда.

## ЛІНЬКА

Лясных палохаючых птахаў,
Слізгаў маланкай гнуткі ён.
І пругка узлятаў з размаху
На купіну, нібы на трон.

Сляпіла сытая дрымота,
Цянёк насоўвалі кусты.
І шматгалосае балота
Не варушылася тады.

Калі ж асмужаныя далі
Глыталі змроку зябкі дым,
Нібы наложніцы, спявалі
Журботна жабы перад ім.

...На дол балотны цёмна-буры
Вуж, растлусцелы да пары,
Аднойчы выслізнуў са скуры,
Нібыта з вузкае нары.

Ён віўся, сыкаючы джалам,
У свеце ж, звыклым да ўсяго,
Прырода велічна маўчала,
Не заўважаючы яго.

## ЯК ДОБРА

Як добра, што ёсць яшчэ гэта
на свеце:
Дожджык сонечны ловяць дзеці.
Зводдаль весела кураняткі
З-пад крыла разбягаюцца маткі.
Як добра, што ёсць яшчэ гэта
на свеце:
Гром паблажэла рохкае недзе.
І хлопчык у портачках радасны
едзе
Па лужынах цёплых
на веласіпедзе.
І не прэюць у лузе пакосы.
І ўвесь свет малады і босы.

□

Святло — за музыкай услед,
За таямніцай — таямніца.
І думкі — сонечнай жывіцай
Шукаюць выйсця ў белы свет.

Баяўся я: маўчання воран
Усе іх вынішчыў да дна...
Ды не! Яшчэ мы пагаворым
І паспяваем да відна.



# «УСІМ РАСЦІ НАМ ПАМАГАЛА...»

### ПА ЗАЛАХ УНІВЕРСІТЭЦКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

КОЖНЫ, хто вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, успамінае пра яго бібліятэку з глыбокай павагай і цеплынёй. Выхаванец БДУ, паэт Ніл Гілевіч пра яе пісаў:

*Усім расці нам памагала.*
*Усім дарадчыцай была.*
*Калі з студэнцкай люднай*
*залы*
*У навуковую вяла...*

У мяне да гэтай бібліятэкі асабліва цёплыя пачуцці. Ніколі не забуду, як атрымаў з Мінска пасылку з падручнікамі: у той час я служыў на Балтыцы, аж у Эстоніі, і вучыўся завочна ў БДУ. Далёка ад Беларусі я адчуваў, што пра мяне не забылі, пра мяне дбаюць і клапоцяцца. Вось з гэтага і хочацца пачаць гаворку пра універсітэцкую бібліятэку.

— Зараз сувязь з завочнікамі яшчэ мацнейшая, — расказвае бібліятэкар Аляксандр Іванавіч Драздоўскі. — За год пасылаем больш паўтары тысячы пасылак у розныя куткі Беларусі і за яе межы.

Аляксандр Іванавіч паказаў некалькі пісьмаў. Бываюць і дзіўныя просьбы. Адна студэнтка з Оршы прасіла выслаць каля дзесяці кніг і нават слоўнік Даля. Калі б выканаць усе яе пажаданні, дык атрымалася б пасылка на цэлы пуд. Такую «бандэроль» пошта не прыме.

— Ды і кніг не хопіць, калі высылаць па пуду, — дадаў з усмешкаю Аляксандр Іванавіч. — У нас не адна тысяча студэнтаў стацыянара...

А ШТО можа прапанаваць бібліятэка тым, хто кожны дзень запаўняе чытальныя залы? Што ўяўляе сабой зараз яе кніжны фонд?

Слова дырэктару бібліятэкі Разаліі Гарасімаўне Любінай:

— Праз год мы будзем святкаваць паўвекавы юбілей універсітэта. Столькі ж гадкоў і нашай бібліятэцы. Спачатку яна мела два пакойчыкі і каля сарака тысяч кніг. І хоць маленькая была, а выконвала вялікія абавязкі цэнтральнай бібліяграфічнай установы Беларусі. Расла, як на дражджах. З Масквы, з Ленінграда няспынным патокам ішлі кнігі.

У вайну фашысты знішчылі амаль увесь фонд бібліятэкі, абсталяванне. Другі раз яна нарадзілася на падмаскоўнай станцыі Сходня. Пасля вызвалення Мінска вярнулася дамоў. Цяжкі гэта быў час. Але ўрад Беларусі знайшоў сродкі для аднаўлення бібліятэкі. Многія навуковыя ўстановы краіны працягнулі ёй руку дапамогі. Зараз фонд бібліятэкі — каля мільёна тамоў. Кожны год на паліцах з'яўляецца больш, як пяцьдзесят тысяч новых кніг. За апошнія гады значна пабагацеў фонд замежнай мастацкай і навуковай літаратуры. Бібліятэка абменьваецца кнігамі з універсітэтамі Балгарыі, Польшчы, Венгрыі, ГДР.

— Разалія Герасімаўна, відаць, ёсць у бібліяцэцы і рэдкія старыя кнігі?

— Сёе-тое ёсць. Можна паглядзець...

І ВОСЬ я ў цэнтральным кнігасховішчы, на самым ніжнім яго ярусе. Тут — цішыня, шчыльныя рады металічных стэлажоў, мяккае святло.

Самы дальні куток — царства старых кніг. Нейкі час стаю тут разгублена, баючыся дакрануцца да каштоўнейшых фаліянтаў. З аднаго боку цьмяна паблісквваюць малінавыя тамы «Живописной Росии», з другога — адліваюць золатам вокладкі тамоў «Истории человечества» Гельмгольца, «Истории искусств» Гнедзіча. А далей проста вочы разбягаюцца.

Знайшоў кнігі пра Беларусь. Зборнік старажытных грамат, «Писцовая книга Полесья», чатыры тамы вопытаў апісання Магілёўскай губерніі. Бяру кніжку Ф. Турчыновіча «Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен», выдадзеную ў Пецярбурзе ў 1857 годзе. З горыччу піша аўтар у заключэнні, што Беларусь — зямля векавых змаганняў, вялізная магіла рознаплямённых захопнікаў. «Могла ль она зародить в себе стихии порядка, образованности и благосостояния — что есть уделом стран счастливых»?

Гэтым пытаннем, далёка не бясклапотным, заканчвае аўтар кнігу. Так, не магла ў той час Беларусь быць шчаслівай краінай. Цяжка, ой, цяжка жылося яе сынам. І лепшы доказ гэтага — кніга М. Нікіфароўскага «Очерки Витебской Белоруссии», выдадзеная ў Віцебску ў канцы мінулага стагоддзя. Аўтар быў вельмі назіральным чалавекам, добра ведаў побыт сваіх землякоў. Усё апісаў ён: што і як еў і піў селянін, якое насіў адзенне, у якой хатцы туліўся.

Колькі павандравалі старыя кнігі па свеце, па розных прыватных бібліятэках, пакуль атрымалі пастаянную прапіску на гэтых паліцах!

У СЕМ гадзін вечара закрываецца кнігасховішча. Пайшоў я блукаць па чытальных залах. Іх чатыры. Асаблівая цішыня пануе ў навуковай зале. Да паслуг выкладчыкаў, аспірантаў мноства даведнікаў, энцыклапедый, слоўнікаў, замежных часопісаў. Дарэчы, бібліятэка атрымлівае іх каля трохсот, а айчынных яшчэ болей — каля паўтысячы. У навуковай зале захоўваюцца аўтарэфераты, мікрафільмы, устаноўлена светавое сігнальнае табло. Яно ўспыхвае, калі паступае з цэнтральнага кнігасховішча заказаная літаратура.

Потым падняўся на трэці паверх, зайшоў у студэнцкую чытальную залу. Асцярожна, на дыбачках, іду паўз сталы. Схіленыя галовы, шорхат старонак, шэпт — ціхі рабочы шумок. Тут нават можна ўбачыць задрамаўшага над канспектам студэнта. Спіць ён, як заяц — праз хвіліну ўсхопіцца, пратрэ вочы, і зноў «грызе» граніт навукі...

Абанементны аддзел, дзе выдаюцца кнігі на дом. Студэнты самі заходзяць у падсобнае кнігасховішча, якое знаходзіцца побач, выбіраюць, што каму трэба. Арыентавацца ў кніжным моры навучылі іх работнікі бібліятэкі. Ужо некалькі гадоў праводзяцца ва універсітэце бібліяграфічныя заняткі. На першым курсе вучаць карыстацца каталогамі, даюць свайго роду компас. На трэцім курсе стрэлка компаса крута паварочваецца на спецыяльную літаратуру. Паварот гэты робіцца з дапамогай прафесараў, выкладчыкаў, бо хто лепш за іх ведае багацце літаратуры па сваёй галіне. Таму лекцыі па бібліяграфіі чытаюць матэматык прафесар Ю. Багданаў, фізік прафесар А. Левашоў, хімік дацэнт В. Свірыдаў.

— Часцяком заходзяць студэнты і да нас, — расказвае старшы бібліёграф даведачна-бібліяграфічнага аддзела Людміла Паўлаўна Пялевіна. — Мы дапамагаем падабраць літаратуру па тэме. Раім, што і дзе можна знайсці...

РАСКАЗ пра бібліятэку БДУ будзе не поўным, калі не сказаць пра яе масавую работу. А робіцца тут шмат чаго, сапраўды масавага і цікавага. Былыя выхаванцы і сённяшнія студэнты могуць успомніць нямала вечароў-сустрэч з пісьменнікамі Беларусі. Не раз выступалі ва ўніверсітэце Міхась Лынькоў і Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка і Іван Мележ, Максім Танк і Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч і Іван Новікаў...

Для масавай работы тут ёсць вялікія магчымасці, якія проста грэх не выкарыстоўваць. Дзе яшчэ столькі пачынаючых паэтаў, празаікаў, будучых філолагаў. І ўвогуле, заўзятых аматараў чытання! Якія гарачыя спрэчкі разгараюцца на літаратурных вечарах і дыспутах! Не, яны не канчаюцца пасля таго, як вядучы дыспута «падсумуе вынікі». Яшчэ доўга, бывае, да світання, працягваюцца спрэчкі ў інтэрнаце. І той, хто хоць раз правёў такую ноч, ніколі яе не забудзе, бо толькі ў залатыя гады студэнцтва часцей здараецца такое, калі можна прагаварыць да раніцы пра любімых герояў, пра цуд чалавечага розуму — кнігу.

Л. ЛЯВОНАЎ.

# ЧАСОПІСЫ Ў МАІ

## «ПОЛЫМЯ»

Майскі нумар адкрываецца вершам Р. Барадуліна «Дваццаць пяць». З новымі вершамі выступаюць таксама А. Русецкі, В. Зуёнак, Г. Бураўкін, А. Зарыцкі. Пад рубрыкай «З вогненных дарог» змешчаны вершы М. Лужаніна, В. Віткі, М. Калачынскага.

У часопісе надрукавана дакументальная аповесць А. Савіцкага «Сталявары», а таксама апавяданне Я. Каршукова «Пятроўская быль».

Рубрыка «Нашы публікацыі». Тут змешчаны ўступнае слова Ул. Калесніка «Ветразі Адысея» (да 70-годдзя з дня нараджэння Ул. Жылкі) і некалькі вершаў паэта.

У раздзеле «Новыя пераклады» надрукаваны вершы Ус. Раждзественскага і Шандара Петэфі.

«Ад заставы да заставы» — так называюцца нататкі ваеннага журналіста М. Плотнікава. Тут жа надрукаваны і нарыс У. Дамашэвіча «Былое не забываецца».

Публіцыстыка прадстаўлена артыкулам Р. Булацкага і І. Сачанкі «Словам — як зброяй».

У. Юрэвіч дзеліцца сваімі думкамі аб першым томе БелСЭ.

«Успаміны, дзённікі, дакументы». Пад гэтай рубрыкай змешчаны раздзелы з другой кнігі Р. Мачульскага «Вечны агонь» і ўспаміны былога члена КПЗБ Ванды Міхалёўскай «Шляхі і краты».

У раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства» выступаюць з артыкуламі П. Дзюбайла і С. Гаўрусёў. Надрукаваны таксама рэцэнзіі Б. Бур'яна (на кнігу М. Арочкі «Валянцін Таўлай»), Я. Герцовіча (на раман А. Алешкі «Дарогі без слядоў»), Л. Падгайскага і К. Панюціч (на кнігу Э. Блінавай і Е. Мяцельскай «Беларуская дыялекталогія»).

## «МАЛАДОСЦЬ»

Чытачы знойдуць тут вершы Г. Бураўкіна, Ж. Янішчыц, Л. Якубовіча. «Радкі далёкіх жнівеньскіх» В. Віткі.

Часопіс друкуе заканчэнне аповесці І. Сяркова «Мы—хлопцы жывучыя», лірычныя запісы Я. Брыля «Пошукі слова», апавяданне В. Гарбука «Горад без папугайчыкаў».

Надзвычай багаты ў нумары раздзел публіцыстыкі. Тут і фотарэпартаж В. Ждановіча і Я. Кольчанкі «Спяваць салаўям», і франтавы рэпартаж А. Дзітлава «Сузор'е мужных», і артыкул М. Сувалава «Гомельскія маладагвардзейцы», і «Партызанскае слова» Б. Сасноўскага, і нарыс У. Ліпскага «Соль зямлі».

У часопісе змешчаны інтэрв'ю з лаўрэатамі Дзяржаўных прэмій БССР мінулага года П. Броўкам, М. Савіцкім, В. Палтаран.

З рэцэнзіямі ў часопісе выступаюць А. Вярхоўскі (на кнігу Ул. Вялічкі, М. Латыша і Ул. Унуковіча «Трэці семестр»), У. Макарчык (на кнігу вершаў Г. Шутэнкі «Памяць»), М. Трушко (на першую кніжку вершаў Ю. Голуба «Гром на зялёнае голле»), С. Андраюк (на кнігу А. Пінчука «Многа-мала»), В. Красней (на кнігу І. Крамко, А. Юрэвіча і А. Яновіча «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы»).

Пра літаратурныя сувязі паміж беларускім і ўкраінскім народамі—гаворка ў артыкуле І. Саракавіка «Пабрацімы».

## «БЕЛАРУСЬ»

Часопіс адкрываецца артыкуламі камандуючага войскамі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, генерал-палкоўніка, Героя Савецкага Саюза І. Траццяка «Наша вялікая Перамога» і гвардыі генерал-лейтэнанта, былога камандзіра 100-й, а затым 1-й гвардзейскай ордэна Леніна стралковай дывізіі І. Русіянава «Нізкі паклон Беларусі».

Пад рубрыкай «Насустрач выбарам у Вярхоўны Савет СССР» — артыкул М. Іванковіча «Радасныя здзяйсненні».

«Старонкі незабыўнага». У гэтым раздзеле надрукаваны ўспаміны пра Уладзіміра Ільіча Леніна П. Мілюкова і І. Снітко.

«Праверка баявой гатоўнасці» — так называецца фотарэпартаж з вайсковых зімова-вясенніх манёўраў «Дзвіна».

Былы начальнік штаба партызанскага атрада «За Савецкую Беларусь» І. Паркін расказвае пра баявыя будні партызан у артыкуле «Праз агонь».

Пра вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна ў творчасці кампазітараў рэспублікі вядзе размову Г. Загародні ў артыкуле «Прысвечана ленінскай тэме».

Увазе чытачоў часопіс прапануе гістарычную аповесць І. Шамякіна «Бранiпоезд «Таварыш Ленін», франтавыя ўспаміны Р. Няхая «Суровыя былі», апавяданне Б. Сачанкі «Пяць пакункаў адзежы» і апавяданне пісьменніка з ГДР Герберта Шырмахера «Песня» (пераклаў з нямецкай мовы С. Дорскі), вершы П. Прыходзькі, Р. Барадуліна, М. Калачынскага, М. Чарняўскага, К. Кірэенкі, Б. Спрынчана (пераклад з рускай мовы В. Зуёнка) і Ус. Раждзественскага (пераклад з рускай мовы Р. Маланкі).

## «НЁМАН»

У пятым нумары часопіса надрукаваны працяг рамана І. Мялы «Раскол», апавяданне Г. Васюковай «Колька», вершы Б. Спрынчана, А. Дракахруста, Ю. Свіркі (пераклад з беларускай мовы Н. Кісліка), Ус. Раждзественскага. Пад рубрыкай «З паэтычных сшыткаў» надрукаваны вершы маладых паэтаў Н. Татур, Г. Мыльнікава, А. Малашэнкі, А. Раецкага, А. Мельнікава.

У часопісе змешчаны інтэрв'ю з генерал-палкоўнікам У. Грэкавым, нататкі былога ваеннага карэспандэнта А. Белашэева «Вясёлка над Одэрам», нарыс А. Карпюка «Хто мы ёсць» (пра гістарычнае мінулае і сённяшні дзень Гродзеншчыны).

У раздзеле «Запіскі, успаміны, дакументы» апублікаваны пісьмы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама ўспаміны М. Шчансновіча «Пушчанскія прэм'еры».

## Госці Мінска: НА СЦЭНЕ ОПЕРНАГА



У спектаклях Беларускага тэатра оперы і балета выступілі вядучыя салісты Ленінградскага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя С. М. Кірава. У спектаклі «Хаваншчына» партыю Дасіфея выканаў народны артыст СССР Барыс Штокалаў (на здымку ў цэнтры), партыю Галіцына—заслужаны артыст РСФСР Мацвей Гаўрылкін (на здымку справа) дырыжыраваў спектаклем госць з Ленінграда Вадзім Каленцьеў.

## ПАРАД ЗОРАК У ПАЛАЦЫ СПОРТУ



«Калі ўсміхаюцца зоркі» — так называецца вялікая эстрадная праграма майстроў савецкай эстрады, якая паказваецца цяпер у Мінскім палацы спорту. Сярод удзельнікаў гэтай праграмы—спявак Валерый Абадзінскі, выканаўца музычных твораў публіцыстычнага напрамку. Яго вы і бачыце на здымку.

З пошты ЛіМа

# КАЛІ ПАЛІЦЫ НЕ СКЛАД...

Пісьменнік напісаў кнігу. Яе выдалі, прыгожа афармілі. Які яе далейшы лёс? Гэта залежыць і ад нас, работнікаў кнігагандлю. Вось мне і хочацца расказаць, як мы працуем, што робім, каб літаратурныя творы знаходзілі свайго чытача.

Пачну з лічбаў. На маю думку, яны вельмі красамоўныя. Калі ў 1956 годзе магазіны Віцебскага аблкнігагандлю прадалі кніг на 625 тысяч рублёў, то летась — больш чым на мільён. Паспрыяў гэтаму рост матэрыяльнага і культурнага ўзроўню людзей, а таксама тое, што мы сталі лепш камплектаваць фонды кнігарань. Калі раней з-за памылковых заказаў прадаўцоў, таваразнаўцаў на складах утвараліся «залежы», якія пасля спісваліся за кошт дзяржавы, то зараз становішча зусім іншае. Строгі кантроль фінансавых органаў выключае магчымасць звышнарматыўных рэштак. Каб іх не было, заказ павінен адпавядаць попыту.

Дасягнуць адпаведнасці можна толькі пры дзвюх умовах. Па-першае, трэба добра ведаць кнігу і не ўвогуле кнігу, а канкрэтную, на якую афармляецца заказ. А гэта не проста, бо ў момант заказу прадавец мае надзвычай сціслую анатацыю, апублікаваную ў тэматычным плане ці бланку-заказе. І — усё. Тут можа дапамагчы сарыентавацца высокая агульнаадукацыйная і прафесіянальная падрыхтоўка, нарэшце, проста інтуіцыя кніжніка, яго вопыт.

Па-другое, трэба дакладна ведаць магчымых пакупнікоў, мець з імі самую цесную сувязь. Дасягнуць гэтага можна пры глыбокім вывучэнні попыту, профілю і характару дзейнасці прадпрыемстваў, навучальных устаноў, арганізацый, нарэшце, усіх мясцовых жыхароў.

Карацей кажучы, без ведаў працаваць мы не можам. Прыйшлося пасадзіць «за парты» прадаўцоў. Мы выкарыстоўваем усе магчымыя формы вучобы. Арганізавана ў нас школа камуністычнай працы для работнікаў прылаўка. Праграма яе прадугледжвае павышэнне не толькі прафесіянальнай падрыхтоўкі слухачоў, але і агульнаадукацыйнага ўзроўню. Амаль усе загадчыкі магазінаў, таваразнаўцы, частка прадаўцоў закончылі ці вучацца на курсах павышэння кваліфікацыі пры Маскоўскім паліграфічным інстытуце і Ленінградскім інстытуце культуры імя Крупскай. Каля дваццаці чалавек закончылі або вучацца ў завочных і вячэрніх спецыяльных установах.

Усё гэта дало добры плён. Зараз у нас нямала сапраўдных майстроў кніжнага гандлю, якія ведаюць і любяць кнігу.

Калі раней, гаворачы аб памылках у заказах, мы маглі назваць сотні, а то і тысячы заказаных, але не прададзеных кніг, то зараз гаворка ідзе аб адзінках, у горшым выпадку — аб дзесятках экземпляраў.

Канечне, вельмі важна заказаць патрэбную літаратуру. Але ж гэта не ўсё. Важна хутчэй данесці кнігу да пакупніка і менавіта да таго, якому яе адрасуюць аўтар, выдавецтва. Кніга, хаця і ў меншай ступені, чым перыядычны друк, схільна да маральнага і фізічнага старэння. Праз месяц-два яе цяжэй прадаць, чым праз два-тры дні пасля паступлення ў магазін.

Хачу адзначыць, што з кожным годам паляпшаецца работа ўсіх кнігарань Віцебшчыны. Асабліва плённа працуе калектыў Полацкай кнігарні № 9. Сакрэт поспеху — высокае прафесіянальнае майстэрства прадаўцоў, сувязь з арганізацыямі і пакупнікамі. Прыкметна палепшылася работа Віцебскай кнігарні «Крыніца».

У гэтых магазінах, як і ў многіх іншых, адкрылі пакупніку свабодны доступ да паліц, стварылі аддзел «Кніга — поштай» і адпраўляюць літаратуру ў любы куток нашай краіны.

Можна гаварыць і аб іншых формах актыўнага гандлю, такіх, як продаж кніг-падарункаў да свят, да дня нараджэння, частыя выезды з кнігамі на прадпрыемствы, на розныя масавыя мерапрыемствы і г. д. Але асабліва хочацца падкрэсліць ролю рэкламы. Яна можа быць самай разнастайнай: парада прадаўца і маляўніча аформленыя выстаўкі, стэнды ў зале і гутаркі па радыё, тэлеперадачы і рэцэнзіі ці анатацыі ў газеце.

Дарэчы, работнікі абласнога радыё і тэлебачання адносяцца з павагай да бібліяграфічных аглядаў. На старонках абласной і раённых газет, у перадачах радыё і тэлебачання змяшчаюцца «Кніжныя паліцы», рэцэнзіі, рэкламныя матэрыялы аб кнігах. Адметная і станоўчая рыса ўсіх гэтых публікацый — яны прысвячаюцца не ўвогуле кнізе, а той, якая толькі што паступіла ў магазіны вобласці. Як правіла, пасля выхаду такіх матэрыялаў, навінкі літаральна за некалькі дзён знікаюць з паліц кнігарань.

Падводзячы вынікі работы, мы ніколі не забываем сказаць добрае слова ў адрас нашых пастаянных і надзейных памочнікаў — грамадскіх прапагандыстаў і распаўсюджвальнікаў кнігі. Сярод іх ёсць сапраўдныя энтузіясты, якія на працягу многіх гадоў распаўсюджваюць кнігі. Сёлета мы будзем адзначаць дзесяцігоддзе плённай працы інспектара вытворчай гігіены Віцебскага завода радыёдэталей камуніста Н. Ісаевай. За гэты час яна прадала кніг больш чым на сорак тысяч рублёў. Актыўна прапагандуюць кнігі Людміла Грыгор'ева з Полацкага завода шкловалакна, выкладчык Полацкагаляснога тэхнікума Аляксандр Гугнін, работніца Аршанскага завода «Легмаш» Святлана Карніенка, супрацоўніца музея Героя Савецкага Саюза К. Заслонава Ганна Якуцёнак і іншыя.

У нас ёсць шмат кнігалюбаў, уладальнікаў асабістых бібліятэк, пісьменных людзей, якія ведаюць кнігу, могуць аб ёй расказаць цікава. Але людзі гэтыя, як правіла, занятыя і прадаваць кнігі на грамадскіх пачатках не могуць, хаця многія з іх выконвалі нашы асобныя заданні. «Як жа можна скарыстаць іх?» — задумаліся мы. Пачалі з аб'яднання кнігалюбаў. Першы гарадскі клуб кнігалюбаў быў створаны ў Віцебску ў 1968 годзе. Крыху пазней пры магазіне медыцынскай кнігі стварылі другі. Сюды ўвайшлі найбольш актыўныя і вядомыя ў горадзе кнігалюбы: загадчык кафедры вышэйшай матэматыкі недінстытута, аўтар многіх папулярных кніг па матэматыцы В. Чысцякоў, паэт Д. Сімановіч, галоўны інжынер праектнай арганізацыі У. Ізафатаў, інжынер-электрык І. Драко, выкладчыкі медінстытута М. Гурын і М. Фёдараў, урачы Ю. Новікаў і А. Лінец. Сярод членаў клуба — студэнты, старшакласнікі, работнікі розных арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў горада.

З першых жа дзён клубы сталі актыўнымі і дзейснымі арганізатарамі прапаганды кніг. Цяпер, напрыклад, ніхто са студэнтаў не здзівіцца, калі перад пачаткам лекцыі па матэматыцы ці ў час перапынку кандыдат матэматычных навук Васіль Чысцякоў раскажа аб толькі што паступіўшай у кнігарні горада кніжцы, якая мае для іх пэўную цікавасць. Не здзіўляе работнікаў магазіна, калі пасля чарговай стыпендыі, сабраўшы папярэдне сярод таварышаў грошы, упаўнаважаныя ад груп, а то і курсаў купляюць дзесяткі, а то і сотні кніг.

Вось такія нашы справы. Мы разумеем, што зрабілі толькі пачатак у вялікай рабоце па задавальненні попыту людзей на кнігі. На маю думку, у гэтай рабоце нам больш маглі б дапамагаць пісьменнікі. Яны жаданыя госці ў кнігарнях. Куды лепш ідзе гандаль, калі за прылаўкам гадзіну-другую пастаіць сам аўтар кнігі, калі сам пісьменнік прыме ўдзел у канферэнцыі чытачоў, скажа слова пра кнігу свайго сябра на старонках газеты або ў тэлеперадачы.

Дык давайце ж, таварышы пісьменнікі, сябраваць. Мы працягваем вам сваю руку — на доўгую і плённую дружбу. Мы—пасрэднікі паміж вамі і чытачамі. І мы хочам, каб нас было за што паважаць...

**М. СПАТКАЙ,**
дырэктар Віцебскага аблкнігагандлю.

# ПАТРЭБНЫ БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДНІКІ

*Працуючы над экспазіцыяй музея, сустракаеш самыя розныя перашкоды. Але бываюць і такія цяжкасці, якіх магло б зусім не быць. Трохі дзіўнавата, што няма добрых біяграфічных даведнікаў.*

*Што да пісьменнікаў, то тут перашкод амаль няма. Выйшлі кнігі «54 дарогі», «Пра час і пра сябе». Праўда, даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» даўно трэба перавыдаць і істотна дапоўніць. Я чуў, што гэта работа вядзецца з 1968 года. Чаму ж ён дагэтуль не выйшаў?*

*Нічога не робяць астатнія творчыя саюзы. У 1966 годзе выйшаў кароткі біяграфічны даведнік «Композиторы Советской Белоруссии» (складальнік Д. Жураўлёў). Атрымаўся ён не проста кароткі, а вельмі скарочаны. Усяго 33 біяграфіі кампазітараў! А дзе астатнія. Нічога ў ім не сказана пра такіх вядомых кампазітараў, як Кім Цесакоў і Ігар Лучанок, пра музыказнаўцаў.*

*Саюз мастакоў зусім не выдае даведнікаў. Вось і даводзіцца збіраць весткі пра землякоў дзе толькі можна.*

*Тое самае і пра артыстаў. Беларускаму тэатральнаму аб'яднанню, відаць, таксама варта выпусціць біяграфічны даведнік.*

*Гэта я гавару пра савецкіх дзеячоў культуры Беларусі. А былі ж яны і да 1917 года. І, значыць, патрэбны пра іх і даведнікі, і грунтоўныя даследаванні.*

*Я разумею, што работа гэта вялікая і цяжкая. Напэўна, ёсць свае цяжкасці і ў рабоце «БелСЭ». Толькі гэтым я магу вытлумачыць тое, што рэдакцыя забыла ўключыць у першы том звесткі пра некаторых вядомых дзеячоў мастацтва.*

Генадзь КАХАНОЎСКІ,
намеснік дырэктара па навуковай рабоце Мінскага абласнога краязнаўчага музея.



*МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ*

# „ДАБРО" НА ЎЗЛЁТ

Яго ІМЯ не часта ўбачыш на канцэртных афішах. Але, відаць, цяжка знайсці аматара харавых спеваў, які б не ведаў яго. Ён — гэта галоўны хормайстар Беларускага радыё і тэлебачання Віктар Роўда.

Калі спытаешся, адкуль у яго ўзяліся любоў да музыкі, нястрымная прага да ўсяго цудоўнага, тонкае веданне прыроды чалавечага голасу, ён жартам адказвае:

— А вы наведайцеся ў Замошша на Мядзельшчыне, там амаль уся вёска Роўды ды Роўды. А як які агляд самадзейнасці, дык усе яны ў райцэнтры ці ў вобласці амаль усёй вёскай і спяваюць. Ну, а як жа, маючы такую радню, не ўмець самому спяваць ці не любіць спевы?

І сапраўды: можа ў гэтым «сакрэт» асаблівай яго любві да музыкі. Але, зрэшты, усё яго жыццё было так ці інакш звязана з ёю.

Можа гэтая любоў узнікла яшчэ ў Смаргоні, калі шасцігадовы Віця разам са сваімі братамі пачаў займацца на скрыпцы. Іх настаўнікам быў скрыпач, які іграў звычайна ў мясцовым кінатэатры, суправаджаючы сваёй ігрой нямыя карціны. Заняткі ішлі паспяхова, калі не лічыць, што Віцеў мезенец ніяк не хацеў згінацца «малаточкам», каб больш упэўнена і цвёрда націскаць на струну.

А калі хлопчыку споўнілася восем гадоў, перад бацькамі паўстала пытанне аб далейшай вучобе сына. На сямейнай нарадзе было вырашана аддаць хлопчыка ў семінарыю ў Вільню. І вось у 1929 годзе васьмігадовы Віця ўпершыню пераступіў яе парог. Размяшчалася семінарыя ў былым Троіцкім манастыры, і першае, што ўбачыў хлопчык, — гэта таўшчэзныя, амаль крапасныя сцены, доўгія вузкія калідоры, скляпенне, што ўсюды вісела над галавой. На яго адразу павеяла нечым цяжкім... Першыя непрыемныя ўражанні паступова пачалі праходзіць. Віця патроху ўваходзіў у рытм семінарскага жыцця з яго лекцыямі і, галоўнае, са штодзённымі малітвамі—з абавязковымі спевамі— уранні і больш урачыстымі з іераманахам і зладжаным хорам — увечары, перад сном.

Хлопчыка адразу ж захапілі спевы ў семінарскім хоры, які павінны былі наведваць усе вучні. Рэгентам яго быў невысокі, каржакаваты, блізарукі чалавек— Віктар Сцяпанавіч Бейер, на першы погляд зусім не падобны на сапраўднага музыканта. Затое, калі ён пачынаў працаваць, станавіўся зусім іншым: строгім, патрабавальным, рухавым. Дарэчы, ён не канчаў сінадальнага харавога вучылішча, якое рыхтавала выключна царкоўных рэгентаў, і, мусіць, таму на яго занятках не было царкоўнай схаластыкі, а струменілася жывая, чыстая і трапяткая «мірская» музыка.

Спевы ў хоры давалі хлопчыку сапраўдную асалоду, і хутка ён стаў адным з лепшых харыстаў. Ён не збіраўся быць пасля заканчэння семінарыі папом, і таму аддаваў усю ўвагу музыцы і, хаця прыходзілася спяваць на клірасе, не заўсёды гэтыя спевы прыносілі жаданы для семінарскага начальства вынік.

Неяк увечары адзін з яго таварышаў сказаў:

— Хадзем, Віця, я цябе пазнаёмлю з адным вельмі цікавым і паважаным чалавекам.

— А куды трэба ісці і што гэта за чалавек?

— Не пашкадуеш. Толькі аб гэтым знаёмстве ніхто з семінарскага начальства ведаць не павінен!..

І яны пайшлі па крывых вулачках Вільні, аж пакуль не прыйшлі ва ўтульную кватэру пяцідзесяцігадовага каржакаватага чалавека з эспаньёлкай, вусамі і прыкметнай сівізной.

— Знаёмцеся, Рыгор Раманавіч,—прамовіў сябар.—Гэта наш саліст хору Віктар Роўда. Спадзяюся—ён спатрэбіцца і ў вашым хоры!

Рыгор Раманавіч акінуў юнака добрым позіркам шэрых вачэй:

— Вельмі прыемна, нам добрыя галасы заўсёды патрэбны!

Так адбылося знаёмства Віктара з Рыгорам Раманавічам Шырмам, якога толькі выпусцілі з турмы, дзе ён сядзеў за «антыдзяржаўную дзейнасць». Ён быў палымяным прапагандыстам беларускай музыкі і літаратуры, выдаваў кніжкі паэтаў Заходняй Беларусі, кіраваў студэнцкім хорам, рэпертуар якога складаўся пераважна з народных песень. У яго дома часта збіралася моладзь, людзі больш сталага ўзросту. Тут чыталі новыя вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых беларускіх паэтаў, слухалі радыё з Мінска...

Сапраўдным адкрыццём для маладога чалавека былі беларускія народныя песні, якія развучваліся з хорам. Ён добра памятаў, як такія ж песні спявалі на адзін—два галасы ў Замошшы. Тут жа тая самая песня, расквечаная шматгалоссем, набывала зусім іншы характар, рабілася сапраўдным творам высокага мастацтва. А хормайстар заўсёды ўмеў, як кажуць, удыхнуць у яе жыццё, знайсці адпаведныя настрою і зместу выканаўчыя фарбы.

Тут жа, на рэпетыцыях пазнаёміўся з беларускім паэтам Максімам Танкам і музыкай А. Кошыца і М. Гайваронскага на яго тэксты. Удзельнічаў у шматлікіх адкрытых канцэртах, якія наладжваў хор.

Аднак свой удзел у хоры і асабліва знаёмства з Р. Шырмам трэба было захоўваць у найстражэйшай тайне ад семінарскага начальства — яно катэгарычна забараняла вучням падтрымліваць кантакты з гэтым бунтаром. І, збіраючыся на чарговую рэпетыцыю ці канцэрт, семінарысты клалі пад коўдру пакункі з адзеннем, каб зрабіць выгляд, што яны спяць. Потым выскоквалі праз акно, пралазілі ў падваротню і — шукай ветру ў полі.

Канечне, тады, далучаючыся да песеннага багацця, Віктар перажываў радасць адкрыцця і не мог ведаць, што Шырма быў збіральнікам жамчужын народнага фальклору і прапагандаваў іх у апрацоўках майстроў. Ды і наогул многія слухачы тады ўспрымалі за народныя песні творы прафесіянальных кампазітараў: скажам, «Ты прыйдзі» М. Чуркіна на словы З. Бядулі або «Лета» М. Аладава на тэкст Я. Купалы, якія выконваў М. Забейда-Суміцкі. Выхаванне харавствам—так можна назваць тое, што рабіў Рыгор Раманавіч. Разам з уражаннямі дзіцячых гадоў гэтае адкрытае харавство клікала юнага Роўду ў музычны свет, падказвала жыццёвы шлях—мастацтва!

Пасля ўз'яднання заходняй часткі Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве, у навальнічныя гады вайны Віктар Роўда зноў сустрэўся з Рыгорам Раманавічам. Настаўнікаў пасеў даў добрую рунь, і Шырма запрашае былога вучня артыстам, а пазней і канцэртмайстрам Ансамбля беларускай песні і танца.

Год 1944-ы... Разбураны Мінск. Здаецца, тут, сярод руінаў, у цемры на папялішчах, няма месца для песні. Так толькі здавалася. Народ чакаў артыстаў і прагнуў слухаць песню, споведзь сэрца... Рэпетыцыі, канцэрты. Ансамбль атрымлівае базу ў Гродна. Гастрольныя маршруты пашыраюцца. Аўдыторыя самая разнастайная—і параненыя ў шпіталях, і будаўнікі ў разбураных вайной гарадах, і калгаснікі. Слухачы ішлі на канцэрты, як сказана ў паэта, па песню, па сонца!

Віктар здагадваўся, што яму нестае прафесіянальнай падрыхтоўкі, каб усяго сябе аддаваць любімаму мастацтву. Трэба вучыцца. З 1946 года ён—студэнт дырыжорска--харавога факультэта Вільнюскай дзяржаўнай кансерваторыі. І трэба сказаць, што заняткі па любімай прафесіі даваліся яму лёгка—адчувалася добрая папярэдняя падрыхтоўка, шматгадовае спяванне ў хорах, добрыя музычныя здольнасці. І няма нічога дзіўнага ў тым, што яшчэ будучы студэнтам, ён з 1949 года становіцца педагогам музычнага вучылішча імя Талат-Келпшы і выкладае ў кансерваторыі ў оперным класе і чытанне харавых партытур.

Да гэтага ж часу адносіцца і яго першае выступленне як спевака-саліста. Справа ў тым, што сіламі студэнтаў і выкладчыкаў кансерваторыі было наладжана канцэртнае выкананне оперы Даргамыжскага «Русалка» і В. Роўду была даручана партыя Князя, якую ён з поспехам праспяваў.

Па аднадушным рашэнні дзяржаўнай камісіі В. Роўду накіравалі ў аспірантуру пры Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. Тут яго кіраўніком стаў народны артыст Саюза ССР, прафесар А. Свешнікаў. Надзвычай патрабавальны да аспірантаў і да самога сябе, ён вылучыў новага аспіранта сярод іншых, бо разгадаў у ім дырыжорскі талент, музычнасць, жаданне працаваць над удасканаленнем сваіх ведаў. Амаль адразу прафесар прапанаваў аспіранту працаваць педагогам хору хлопчыкаў у кансерваторыі, а таксама стаць хормайстрам Дзяржаўнага рускага хору СССР, якім кіраваў сам...

У 1956 годзе В. Роўда вяртаецца ў Беларусь і становіцца галоўным хормайстрам Дзяржаўнай капэлы Беларускай ССР, дацэнтам кансерваторыі. З тых часоў пачалася яго плённая праца па прапагандзе лепшых узораў беларускай харавой музыкі, бясконцыя рэпетыцыі, гастрольныя падарожжы па Саюзе.

За дзевяць гадоў працы ў капэле ён паставіў такія творы, як кантаты І. Кузняцова «Ленін», «Светлы шлях» і «Палі стэпавыя», «40 гадоў» М. Аладава, «Канстанцін Заслонаў» Ю. Семянякі, кантату Д. Шастаковіча «Над Радзімай нашай сонца ззяе», Г. Свірыдава «Памяці Сяргея Ясеніна», А. Фляркоўскага «Калоднікі», С. Рахманінава «Вясна», развучыў складаны хор з Дзевятай сімфоніі Бетховена і шмат іншых твораў. Іх дырыжорская інтэрпрэтацыя заўсёды была блізкай да аўтарскай задумы, вылучалася адпрацаванасцю самых дробных дэталяў, высокімі мастацкімі якасцямі.

З 1965 года В. Роўда галоўны хормайстар хору Беларускага радыё і тэлебачання. Не вельмі добрую спадчыну атрымаў ён ад сваіх папярэднікаў. Калектыў быў малы, не вылучаўся яркім выканаўчым майстэрствам. Працу трэба было пачынаць амаль спачатку. І новы хормайстар распачаў яе. Надзвычай патрабавальны, ён адразу ж наладзіў дысцыпліну, змог удыхнуць у калектыў жаданне працаваць, бо праграмы сталі цікавейшымі, больш складанымі, мастацкі завершанымі. Побач з запісамі для радыё пачаліся і адкрытыя канцэрты ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, кожны з якіх быў сапраўдным святам як для харыстаў так і для слухачоў.

Цікавай і карыснай была ідэя аб'яднаць хор Беларускага радыё і тэлебачання з хорам Белдзяржкансерваторыі. Тут аб'ядноўваўся вопыт прафесіянальнага калектыву з маладымі галасамі студэнтаў. Дарэчы, вялікі склад аб'яднанага хору дазваляе «падымаць» складаныя і вялікія музычныя творы такія, напрыклад, як «Паэма агню» і «Праметэй» А. Скрабіна, «Сімфонія псалмаў» І. Стравінскага, «Альпійская сімфонія-балада» Я. Глебава, «Патэтычная араторыя» Г. Свірыдава, «Рэквіем» Фарэ і многія, многія іншыя творы.

Наогул В. Роўда за апошнія гады стаў нязменным кіраўніком зводных хораў у час разнастайных фестываляў, дэкад, канцэртаў—і гэта з'яўляецца яскравым прызнаннем яго дырыжорскага таленту.

Ён чытае беларускую паэзію і добра ведае яе, умоўна кажучы, «музычны патэнцыял». Чытае не толькі з утылітарнымі мэтамі. Яму дарагая тая слоўная палітра, з якой потым кампазітар здабывае музычную мову твора, ён умее на рэпетыцыі «кінуць» выканаўцам прыклад з пакуль што «не агучанага» верша, а часам і «падштурхнуць» самога сябе на пошук адзіна правільнай інтанацыі. Гэтаму майстру неабходна жыць не толькі ў стыхіі музыкі, але і інтарэсамі «суседняга цэха», у паэзіі.

Яго лічаць патрабавальным. Так, Віктар Роўда строга ставіцца да культуры выканання, беражліва распрацоўвае кожную дэталь, імкнучыся раскрыць усё багацце твора, яго паліфанічны свет і думку аўтара. Бывае, ён і не стаіць за дырыжорскім пультам, артысты ж усё роўна адчуваюць яго прысутнасць, «чуюць» яго вока—пільнае і валявое. За ім, за яго намерам ляціць песня і лунае, лунае, калі перадаецца па радыё, над краінай, трывожачы сэрцы... Хтосьці назваў выканаўцаў песенных твораў «паўнамоцнымі прадстаўнікамі». Пасада адказная і пачэсная. І ёю ганарыцца і мае права ганарыцца Віктар Роўда.

Хормайстар ніколі не спыняецца на дасягнутым, патрабуе ад калектыву дакладнага выканання аўтарскай задумы, напоўненага гучання, яркіх выканаўчых фарбаў, раўнавагі ў гучанні асобных груп, добрай нюансіроўкі, рытмічнай дакладнасці.

А як жа дасягаецца гэтае ўмельства?

Спытаеш, бывае, нешта падобнае ў самога Роўды—ён усміхаецца ў адказ: «Звычайна—трэба любіць сваю працу...» Як гэта лёгка гаворыцца і як многага вымагае ад мастака! Таму ён у заўсёднай мабільнай гатоўнасці—да рэпетыцыі, да канцэрта. Быццам яго сэрца перапоўнена песняй, і яна чакае, калі ёй дадуць «дабро» на ўзлёт.

**Дзмітрый ЖУРАЎЛЁЎ.**

# ПЯВУЧЫЯ ДЫСКІ

Пачатак — палавіна справы. З лёгкай рукі майстроў з Усесаюзнай фірмы «Мелодыя» выйшлі ў свет новыя грампласцінкі з запісамі беларускай музыкі.

З апошніх работ фірмы варта адзначыць пласцінку Д 025009-10, на якой запісаны цікавыя творы трох беларускіх кампазітараў. Увагу філафаністаў прыцягне кантата А. Багатырова на вершы Я. Купалы «Беларускім партызанам», выкананая П. Шчаціным, Дзяржаўнай харавой капэлай і Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага. Кантата «Беларускім партызанам» выйшла, здаецца, вельмі своечасова: у гэтыя дні краіна адзначае 25-годдзе з дня разгрому фашысцкай Германіі.

На гэтай жа пласцінцы ў выкананні С. Машкова і Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава запісана сімфанічная паэма С. Картэса для басу і аркестра на верш Э. Межэлайціса «Попел». Паэма гэта вядома ў Калінінградзе, Літве, Смаленску і многіх іншых гарадах краіны, дзе пабываў на гастролях наш сімфанічны аркестр. І музыка і выкананне выдатна перададзены на грампласцінцы. Завяршаюць музычную праграму дзве сімфанічныя паэмы У. Алоўнікава — «Партызанская быль» і «Нарач» у выкананні сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Б. Афанасьева і В. Дуброўскага. Пласцінка дае магчымасць пазнаёміцца з інтэрпрэтацыяй беларускай музыкі такімі рознымі па стылі і манерах дырыжорамі, як Ю. Яфімаў, Б. Афанасьеў і В. Дуброўскі.

Цікавая пласцінка Д 023793-94 з «Квартэтам для чатырох флейт» П. Падкавырава. Музыка гэтага квартэта арыгінальная па форме і вельмі эмацыянальная па змесце, пададзена ў выдатнай манеры флейтыстамі С. Сізко, В. Надточыем, Я. Аўтушкам і Ю. Кандраценка. «Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам ля мінор» Г. Вагнера запісаны ў выкананні В. Шацкага . сімфанічнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам В. Катаева. Тут жа — «Канцэртная фантазія» для фартэпіяна з аркестрам Д. Камінскага ў выкананні Е. Эфрон і аркестра пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава.

Пласцінка Д 25985-6 знаёміць з выканаўчым майстэрствам трох буйнейшых калектываў. Адкрываюць пласцінку «Песня аб Ульянаўску» І. Лучанка і «Вочы Беларусі» У. Алоўнікава, якія выконвае Дзяржаўны народны хор БССР пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча. Харавая акадэмічная капэла пад кіраўніцтвам Р. Шырмы прадстаўлена песнямі «Не шкадуйце, хлопцы, пораху» А. Пашчанкі, «Ды ляціце, гусі» А. Ленскага і «Рэквіемам» М. Анцева. Бліскуча завяршаюць пласцінку запісы Беларускага дзяржаўнага народнага аркестра пад кіраўніцтвам І. Жыновіча. Гэты калектыў выконвае фантазію на тэмы рэвалюцыйных песень М. Казінца «Песні рэвалюцыі» і сказбыліну Жыновіча «Аб зямлі Беларускай».

Трэба адзначыць, што грампласцінка стала сапраўдным паўпрэдам беларускай культуры.

Але ёсць яшчэ і вялікія пралікі ў гэтай справе. Трэба, каб выканаўцы і гукарэжысёры зрабілі гучанне пласцінкі дасканалым. Таму што з-за нізкай якасці запісу многія самабытныя творы таленавітых аўтараў трацяць сваю непасрэднасць, непаўторны каларыт.

Яркай падзеяй у канцэртным жыцці рэспублікі з'яўляецца творчасць маладога кампазітара, піяніста і арганіста А. Янчанкі. Як арганіст, ён можа быць пастаўлены ў адзін рад з лепшымі савецкімі майстрамі. Дык чаму б не запісаць на грампласцінку, ну, напрыклад, «Арганную імшу» І. Баха? Гэты твор так рэдка выконваецца ў Савецкім Саюзе, і запіс яго на пласцінку быў бы вялікай прыемнасцю для аматараў музыкі.

Імя выдатнага скрыпача Рамана Нодэля не патрабуе рэкламы. З яго творчасцю добра знаёмы нават за рубяжом. І тым больш дзіўна, што да гэтага часу няма ніводнага дыска з яго запісамі.

Засмучае, што студыя грамзапісу не заўважыла опернай музыкі беларускіх кампазітараў. За выключэннем урыўкаў з оперы Я. Цікоцкага «Алеся», у грамзапісе няма ніводнай беларускай оперы. Відаць, час пераходзіць да поўнага запісу опер. Споўнілася 25 гадоў з дня пастаноўкі на сцэне нашага опернага тэатра «Алесі». Чаму б аматарам музыкі не атрымаць пласцінку з запісам оперы. Вопыт такі ёсць. Тры гады назад нашым тэатрам была запісана на трох грампласцінках опера С. Танеева «Арэстэя». Аб папулярнасці пласцінкі лепш за ўсё сведчыць тое, што яе няма ў продажы.

Спадзяёмся, што калектывы філармоніі і опернага тэатра разгорнуць актыўную работу па прапагандзе самых разнастайных жанраў беларускай музыкі, ад камернай да опернай, а фірма «Мелодыя» пашырыць свае каталогі і дасць магчымасць сотням тысяч людзей сачыць за поспехамі музычна-выканаўчага мастацтва Беларусі.

**В. ЯФРЭМАЎ.**

